8 траўня 2020 | № 17 (676)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Мафія бессмяротная!**
Стар. 9

**4 РОЛЯ СРОДКАЎ ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ АБАРОНЫ Ў ПАДТРЫМАННІ ДЭМАКРАТЫІ**

Ці ёсць у нас шанец збочыць з пратаптанай за чвэрць стагоддзя дарожкі?



**6–7 «ВІРУС – АД ПЕРАПУДУ»**

Як дапамагаюць бяздомным у час пандэміі, у якую яны не вераць



**8 КАРЫЧНЕВЫЯ ПЯРЭВАРАТНІ**

Апошні раз падпольшчыкі Гітлера нагадалі пра сябе ў Паўднёвым Тыролі ў 1950 – 1960-я

**10–11 «АПОШНЯЯ НАДЗЕЯ»**

Як французскія танкі не ўратавалі Другую Рэч Паспалітую



# Народжаныя ў палоне

## Да нядаўняга часу існаванне савецкіх палонных у Нарвегіі было таямніцай



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Рэдакцыя «Новага Часу» атрымала ліст ад журналіста з Нарвегіі Пэра Еўнэ. Ён дапамагае даследчыцы з Осла, спадарыні прафесару Ліў М'елдэ, якая шукае народжаных у апошнія гады Другой сусветнай вайны ў нарвежскіх лагерах дзяцей савецкіх ваеннапалонных. Сярод іх былі і беларусы.**

### Нажніцы фірмы «Золінген»

У 2005 годзе прафесар Ліў М'елдэ прыехала ў Санкт-Пецярбург і пазнаёмілася з Міхаілам Сальнікавым, які распавёў, што яго бацька, мастак Юрый Сальнікаў, нарадзіўся ў Нарвегіі ў 1944 годзе, але не ведаў, дзе менавіта. На працягу 45 гадоў Юрый Сальнікаў спрабаваў раскрыць таямніцу свайго нараджэння. У свае маладыя гады ён верыў у тое, што быў народжаны ва Уладзівастоку. Але ў 1961 годзе воляй выпадку ён даведаўся, што нарадзіўся ў лагеры для ваеннапалонных, які размяшчаўся ў Нарвегіі недалёка ад Паўночнага палярнага круга.



**Прафесар Ліў М'елдэ:**

Прафесар універсітэта Осла, якая спецыялізуецца ў педагагічнай сацыялогіі. Сфера навуковых інтарэсаў: вопыт прафесійнага навучання.

Сапраўдную гісторыю знаёмства бацькоў распавёў Юрыю яго дзядзька. Аднойчы Юрый убачыў нажніцы фірмы «Золінген», пакінутыя на стале ў гасцёўні яго бабулі. Ён спытаў свайго дзядзьку: «Не падобна, што гэтыя нажніцы зробленыя ў Савецкім Саюзе. Адкуль яны?» Дзядзька распавёў, што нажніцы прывезла маці Юрыя з нарвежскага палону ў жніўні 1945 года. Яна вярнулася з Юрыем на руках, парай бляшанак рыбных кансерваў і нажніцамі фірмы «Золінген».

Выявілася, што 17-гадовая Галіна Караленка і 24-гадовы Фёдар Савін-Сальнікаў аказаліся ў Нарвегіі ў 1942 годзе. Былі савецкімі палоннымі, у перыяд з 1942 па 1945 гады прымусова працавалі на рыбным заводзе непадалёк ад невялікага горада Будзё на поўначы Нарвегіі. Яны ніколі не дзяліліся з сынам сваімі ваеннымі ўспамінамі і не распавядалі пра яго нараджэнне ў Нарвегіі. Ні словам не ўзгадвалі яны і свае цяжкія выпрабаванні ваеннага часу.

Галіна і Фёдар атрымалі пасведчанне аб нараджэнні Юрыя ва Уладзівастоку праз два гады, 18 сакавіка 1947 года. У той дзень Галіна нарадзіла другога хлопчыка, і Юрый ды яго малодшы брат былі зарэгістраваны народжанымі ў адзін дзень як блізняты. Юрый думаў, што яму было 14 гадоў на той момант, калі дзядзька распавёў яму праўду. У той дзень ён даведаўся, што яму 16 і што ён быў народжаны на тэрыторыі



Макет скульптуры Юрыя Сальнікава «Жанчына на вятры».
Фота: planeta.ru

**Прыблізна 100 000 мужчын і каля 1400 жанчын з Савецкага Саюза працавалі на прадпрыемствах Нарвегіі на працягу акупацыйнага перыяду**

Нарвегіі. Аднак дакладнае месца нараджэння Юрыя засталося таямніцай, якую яго бацькі забралі з сабой у магілу.

Кашалёк з рыбінай скуры з надпісам «Будзё. 194?» і некалькі фотаздымкаў, якія датаваліся апошнімі днямі вайны, — усё, што засталося па смерці Юрыных бацькоў у 1990-х гадах. Гэтая інфармацыя стала адпраўной кропкай даследавання. Пазней імёны Юрыя і яго бацькоў былі выяўленыя ў спісах работнікаў рыбнай фабрыкі ў Лангстрандзе, замаскаванай пад рускім лагерам для ваеннапалонных на тэрыторыі камуны Будзін, недалёка ад горада Будзё.

### 100 000 мужчын і 1400 жанчын

Прафесарка Ліў М'елдэ пачала вывучаць гісторыю савецкіх ваеннапалонных. І ўстанавіла, што нацысты звозілі на прымусовыя працы ў Нарвегію людзей, сярод якіх былі і жанчыны, што нараджалі дзяцей у зняволенні.

Даследчыца напісала кнігу «Сакрэт пары нажніц» (Saksens hemmelighet), прысвечаную савецкім жанчынам, іх працы, жыццю і нараджэнню дзяцей у нямецкіх лагерах для ваеннапалонных на поўначы Нарвегіі. Аўтарка прасачыла за лёсамі некаторых з іх і ўзяла інтэрв'ю.

Прыблізна 100 000 мужчын і каля 1400 жанчын з Савецкага Саюза працавалі на розных вытворчых прадпрыемствах на тэрыторыі Нарвегіі на працягу акупацыйнага перыяду.

Жанчыны «з усходу» працавалі ў паўночнай частцы краіны на прадпрыемствах па апрацоўцы рыбы, якія імкліва разрасталіся. Заводы, размешчаныя ў Хамерфэсце, Свольверы, Будзё, займаліся раздзелкай рыбы. Праца кантралявалася нямецкім і нарвежскім начальствам.

Савецкія жанчыны нарадзілі ў нарвежскіх лагерах каля 150 дзяцей. Прыкладна 50 дзяцей нарадзілася ў лагеры ў Лангстрандзе недалёка ад Будзё ў 1944–1945 гадах, і Юрый Сальнікаў быў у іх ліку. Але адсачыць іх лёсы — складаная задача.

Працяг на стар. 5 »

# Дзе ракі зімуюць, альбо Эфект палення, пра які ніхто не думае

Алена ЦЕРАШКОВА

**Добрых ракаў не бывае: добрую хваробу злаякаснай не назавуць. Але з гледзішча якасці жыцця злаякасныя пухліны — вельмі розныя.**

Рак яечка — амаль што ўдача: і лечыцца някепска, і наступствы ў штанах хаваюцца. Не тое — рак кішкі, калі даводзіцца выводзіць калавыя масы праз каланастому — дзірку ў баку. Але і тут пры ўдалым збегу абставін можна прыхаваць праблему хаця б ад дальняга атачэння. А вось наступствы хірургічнага лячэння ракаў на твары ці ў роце схаваць можна толькі разам з пацыентам.

Аднойчы да мяне звярнуўся мужчына, які хацеў выдаліць зуб. Мужчына як мужчына, зуб як зуб, такім інтэрна-хірурга не здзівіш. Здзівіла іншае: двухсантыметровая язва паміж сківіцай ды языком. Па маім меркаванні, менавіта гэтая штука мусіла турбаваць пацыента, а зусім не сто гадоў як мёртвы пянёк ад ніжняй шасцёркі. «Даўно ў вас ГЭТА?» — спыталася я. «Што — гэта?» — лыпнуў вачыма пацыент. «Вось гэтая язва пад языком», — удакладніла я, асцярожна дакранаючыся да пакрытага шэрым налётам кратара са шчыльнымі берагамі. Пацыенту, відавочна, не балела, і гэта мне дужа не спадабалася: рана ў роце мусяць балець, гэта вельмі адчувальная зона. «Язва? Пад языком?» — здзівіўся мужчына. — «Не ведаў. А што там?»

Праз тры тыдні прыйшоў адказ на ягонае пытанне. Мой настаўнік, хірург з трыццацігадовым стажам, які па маёй просьбе (здаецца, нават без анестэзіі) адшчыкнуў тады кавалачак з краю язвы дзеля біяпсіі, паклікаў мяне з кабінета. «Памятаеце таго пацыента?» — і назваў прозвішча. — «Там рак. Я накіраваў яго да анколага».

Удумайцеся: язва 2 сантыметры пад самым актыўным і неспакойным органам чалавечага цела. Яна расла доўгія месяцы і ніяк сябе не праяўляла. Выпадковая знаходка, па самых сціплых ацэнках, цягнула адразу на трэцюю стадыю.

Анколагі нездарма прыдумалі вылучаць розныя стадыі рака. Улічваецца распаўсюд углыб і ўшыркі, паражэнне лімфатычных вузлоў, наяўнасць метастазаў — другасных пухлін у іншых органах. З усяго гэтага складаецца прагноз на жыццё і магчымасць перамагчы хваробу. На твары і ў роце ўсё вельмі складана перапляцене, па суседству размешчаныя скура ды слізістая, клятчатка і цягліцы, нават залозы, безліч лімфатычных вузлоў, густыя сеткі нерваў ды сасудаў. Калі пухліна прарасла некалькі слаёў розных тканак ці выйшла за межы адной анатамічнай вобласці — гэта вельмі кепска. Таму што радыкальнасць выдалення пухліны залежыць ад таго, ці можна выразаць яе разам з навакольнымі здаровымі тканкамі.

Прыкладам, каб радыкальна выдаліць са спіны меланому (злаякасную радзімку) памерам з гарошыну, даволі часта даводзіцца выразаць кавалак скуры з палову мужчынскай далоні. А цяпер уявіце сабе падобную радзімку на шчацэ.

Згадваю прыклад, які запомніўся са студэнцкіх гадоў. Пацыент, мужчына каля 50, лічыў сябе здаровым чалавекам. Адно што паліў. У месцы звыклага прыліпання цыгарэты да ніжняй губы ўтварылася нейкая штучка. Язвачка — не язвачка, ранка — не ранка. Некалькі месяцаў не зажывала: пацыент не мог ствараць шэдэўры без цыгарэты і па трыццаць разоў на дзень «падпякаў» тую штучку.

Мы бачылі яго на кантрольным аглядзе праз месяц пасля аперацыі. Калі анколагі выразалі правыя паловы вуснаў і кут рота, яны адразу ж правялі пластычную аперацыю: зрэзалі скуру з ілба, склалі ўдвая і замясцілі дэфект. Ювелірная праца прыжылася. Пацыент нават налаўчыўся так заліваць у рот суп, каб цякло ў глотку, а не па барадзе. Толькі паліць болей не атрымліваецца: каб новыя «вусны» самкнуліся, спатрэбіцца некалькі дадатковых аперацый. Аднаўляць функцыю — а, пагатоў, эстэтыку — такім пацыентам пачынаюць толькі тады, калі працяглы час не будзе метастазаў ды рэцыдываў.

Паленне не з'яўляецца абавязковым фактарам развіцця пухлін рота ці прыротавай вобласці. Гэта проста хранічная тэрмічная траўма плюс мікраапраменьванне. З адной цыгарэты рака не будзе. Не будзе і з адной пачкі. Але ніхто не ведае, калі сумарны эфект прывядзе да збою ў сістэме.

А рэкамендацыі тым, хто лічыць сябе здаровым, простыя.

- Рэгулярна наведвайце стаматолага: чым раней знойдзеная пухліна, тым лепшы прагноз.
- Вострыя край зубоў, шкодныя звычкі — паленне, жаванне сумесяў, прыкусванне губ і шчок ці іншая хранічная траўма (механічная, тэрмічная, хімічная) — шлях зарабіць пухліну. Адпаведна, дагледжаны рот — рэальная прафілактыка рака.
- Калі цягам двух тыдняў пасля пазбаўлення ад прычыны хранічнай траўмы вы не адчулі палягчэння — язва ніяк не пачынае зажываць — звяртайцеся да анколага, незалежна ад таго, баліць вам ці не.
- Калі на слізістай рота ў вас ёсць мінімальныя змены, тым больш — дабраякасныя пухліны, развіцця са шкоднай звычкай крытычна неабходна.

Не хварэйце!

# Чаму «гульня з дзяржавай у цяперашніх умовах небяспечная»

**Генадзь Цэрпілоўскі ацаніў магчымы эфект ад указа аб падтрымцы эканомікі.**

Эксперт па кіраванні і развіцці Генадзь Цэрпілоўскі скептычна ацэньвае магчымы эфект ад указу № 143 аб падтрымцы эканомікі.

— Па-першае, там і дзяліць няма чаго, — пракаментаваў эксперт у праграме на primus.by словы Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што з гэтага часу грошы для эканомікі будуць дзяліць кіраўнікі абласцей.

Паводле яго словаў, магчымасці па прадастаўленні льгот абмежаваныя. Акрамя таго, Генадзь Цэрпілоўскі перакананы, што льготы ў першую чаргу атрымаюць так званыя сістэмаўтваральныя прадпрыемствы.

Эксперт падрабязней спыніўся на апісанні магчымага механізму размеркавання дапамогі, прадугледжанай указам. На яго думку, у дадзеным выпадку не выключана задзейнічанне тэлефоннага права:

— Бо нішто не перашкаджае даваць указанні ад урада, верхніх эшалонаў улады тым жа выканкамам па-за рамкамі гэтага ўказа, адпраўляць дадатковыя лісты, паведамленні, рэкамендацыі, указанні прамыя — каму канкрэтна трэба дапамагчы. І выканкамы ж выканаюць гэтыя даручэнні.

Цэрпілоўскі лічыць, што, больш за тое, выканкамы не возьмуцца прымаць самастойныя рашэнні, а будуць дасылаць запыты наверх — каму ім трэба дапамагчы.

Прычыну такой разгубленасці эксперт па развіцці бачыць у тым, што да гэтага часу ў мясцовых уладаў не было права на прыняцце падобных рашэнняў. А ім, апроч усяго іншага, трэба яшчэ і бюджэт выконваць. І мэтавыя паказчыкі пяцігодкі ніхто не перагледзеў: «Так што нас чакаюць узгадненні, узгадненні і яшчэ раз узгадненні».

А што ж з дапамогай малому бізнесу? Для яго ва ўказе асаблівага нічога няма, перакананы эксперт. Па словах Цэрпілоўскага, у дакуменце можна знайсці толькі рэкамендацыі, каб хтосьці прыняў рашэнне аб прадастаўленні льгот. А з улікам таго, як выбудаваная сістэма ўлады, рашэнне пра льготы заўсёды прымаецца зверху.

Але нават калі ўлады і вырашаць выдзяляць льготы малому бізнесу, атрымальнікам такой дапамогі трэба быць напагатове, лічыць эксперт. Не выключана, што атрыманне льгот будзе абстаўлена шэрагам умоваў, невыкананне якіх потым пацягне за сабой сур'ёзныя праблемы:

— Я баюся, што па заканчэнні, напрыклад, года будуць правераныя гэтыя ўмовы. Па большай частцы яны будуць прызнаныя невыкананымі і апынуцца скрыняй Пандоры, якая адкрые буру зваротных дзеянняў. Канфіскацыі, звароты, пені, плацяжы. Гульня з дзяржавай у цяперашніх умовах небяспечная тым, што прадастаўленыя льготы могуць быць адменены заднім чыслом.

**gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Акрамя амністый неабходная эфектыўная сістэма ацэнкі і вызвалення асуджаных

**Паводле інфармацыі Дэпартамента выканання пакаранняў МУС, завершана рэалізацыя Закона Рэспублікі Беларусь «Аб амністыі ў сувязі з 75-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў». Паводле папярэдніх дадзеных, амністыя закранула каля 9 тысяч чалавек, якія адбываюць пакаранне як у месцах пазбаўлення волі, так і ў папраўчых установах адкрытага тыпу.**

З месцаў пазбаўлення волі было вызвалена больш за 2 500 асуджаных, у тым ліку непаўналетнія, адзінокія мужчыны і жанчыны, якія маюць дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў, пенсіянеры, інваліды, а таксама асобы, якія маюць пэўныя захворванні. Больш за 4 500 асуджаных скарочаны тэрмін пакарання на 1 год. Каля 200 асуджаным, якія ўчынілі злачынствы ў непаўналетнім узросце, тэрмін пакарання скарочаны на 2 гады.

Па паведамленні ДВП, выкананне Закона аб амністыі праходзіла ў цесным узаемадзеянні з Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны, Міністэрствам аховы здароўя, з мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, а амністыя ўжывалася толькі да асобаў, якія становяцца характарызуюцца.

Юрыст Праваабарончага цэнтра «Вясна» Павел Сапелка адзначае, што цяперашняя амністыя — першая амністыя з 2015 года. Эксперт прыводзіць параўнанне: па амністыі ў сувязі з 70-годдзем Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне ў 2015 годзе з месцаў пазбаўлення волі выйшлі 1 834 асуджаных, а яшчэ 2 150 асуджаным тэрмін быў скарочаны на адзін год; з папраўчых установаў адкрытага тыпу выйшлі 685 чалавек і яшчэ 691 асуджанаму быў скарочаны тэрмін пакарання на год. Пад амністыю тады трапілі ўсяго 66 непаўналетніх.

Годам раней — у 2014 годзе — былі вызваленыя 1 986 дарослых асуджаных, а таксама 41 непаўнагадовы.

«На гэтым фоне вызваленне больш за 2 500 асуджаных і скарачэнне пакарання на 1 год для больш чым 4 500 асуджаных за перыяд дзеяння амністыі 2019 года — цалкам гуманна. Уражвае колькасць (каля 200) асуджаных, пра якіх ідзе гаворка са згадваннем таго, што злачынствы яны здзейснілі ў непаўналетнім узросце. Колькасць вызваленых непаўнагадовых прадстаўніца ДВП не назвала — іх менш», — падкрэслівае Павел Сапелка.

На думку юрыста «Вясны», такія вынікі атрымаліся ў сувязі з тым, што амністыя праводзілася ў паўтара разы даўжэй, чым звычайна, а таксама таму, што ў лік шчаслівацаў, на якіх яна распаўсюдзіла сваё дзеянне, трапілі пасля вялікага перапынку і наркагандляры.

«Традыцыйна амністыя не закранула тых асуджаных, у каго не скláліся адносіны з адміністрацыяй, і гэта вылілася ў набыццё статусу злоснага парушальніка ўстаноўленага парадку адбыцця пакарання, а таксама тых, хто не змог расплаціцца за прычыненую шкоду. Наогул, з улікам звестак ДВП, амністыя закранула толькі чвэрць усіх асуджаных да пазбаўлення і абмежавання волі.

Пасля невялікай передышкі страсці па амністыі адновяцца: вось-вось будзе прыняты і падпісаны чарговы закон, на які ўскладаецца шмат надзей у сувязі з навіслай над калоніямі і ПУАТ пагрозай пандэміі COVID-19», — адзначае праваабаронца.

Павел Сапелка лічыць, што ў цэлым амністыі запаўняюць адсутнасць эфектыўнай, празрыстай і аб'ектыўнай сістэмы ацэнкі зняволеных у залежнасці ад іх паводзінаў і ступені гатоўнасці пачаць новае жыццё пасля выхаду з месцаў зняволення ды практыкі іх умоўнага вызвалення.

**spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Грошай няма зусім?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Краіна жыве навінамі пра каронавірус. Аднак, аказваецца, вірус — не адзіная праблема для Беларусі. Ён толькі абвастрыў і без таго складаную сітуацыю ў эканоміцы.**

Днямі намеснік міністра эканомікі Дзмітрый Матусевіч паведаміў пра вынікі працы беларускай эканомікі ў першым квартале гэтага года і асцярожна распавёў наконт прагнозаў на ўвесь год. Паводле звестак Белстату, ВУП краіны знізіўся на 0,3% у параўнанні з першым кварталам мінулага года. «Мы не дацягнулі ўсяго 1 працэнтны пункт да тых планавых лічбаў, якія меркаваліся пры прагнозе», — сказаў Дзмітрый Матусевіч.

Пры гэтым Матусевіч неяк забыўся агучыць, да чаго мы ўсё ж «не дацягнулі» той працэнтны пункт. Наколькі я памятаю, зніжэнне ВУП у гэтым годзе ўрадам не планавалася. У нас яно ніколі не плануецца, у нас заўсёды плануецца эканамічны рост, а не спад: хоць маленькі, хоць у межах статыстычнай хібнасці, але рост. І калі ж урад паспеў перапісаць планы?

Матусевіч назваў некаторыя прычыны запавольвання беларускага ВУП. Паводле яго слоў, цёплае надвор'е за кошт памяншэння генерацыі і спажывання цеплавой і электрычнай энергіі знізіла паказчык ВУП на 0,2 працэнтных пункта. Зніжэнне паставак нафты адбілася не толькі непасрэдна на нафтаперапрацоўцы, але і на сумежных галінах. «Паколькі не было нафты, скараціліся і аб'ёмы транспарціроўкі. Такім чынам, прасела транспартная галіна», — дадаў ён. Разам з тым, паводле слоў намесніка міністра, некаторыя галіны ў гэтым годзе «дэманструюць пазітыўную дынаміку». «Сельская гаспадарка плюсуе пастаянна 4,5–5,5% штомесяц. Такі трэнд захаваецца да канца года. Гэта вельмі выгадна для нашай краіны, паколькі мы захаваем харчовую бяспеку і зарабляем на экспарце прадуктаў харчавання», — сказаў Матусевіч. Акрамя таго, рост быў адзначаны ў IT-сферы, дрэваапрацоўцы, будаўніцтве.

Праўда, у Белстата ёсць яшчэ і іншыя лічбы. Напрыклад, дынаміка знешняга гандлю за студзень-люты 2020 года. Экспарт тавараў у параўнанні з аналагічным перыядам 2019 года зменшыўся на 14,3% — да $4,3 мільярда. Прычым, страты ад продажаў прыйшліся на топ-7 экспартных тавараў. У прыватнасці, аб'ём рэалізаваных на знешніх рынках нафтапрадуктаў скараціўся на 62%, да 736,7 тысячы тон. Уменне БНК прадаць нафтапрадукты ў сярэднім на 9% даражэй, па $509 за тону, тым не менш не здолела перакрыць страты па гэтай тavailable пазіцыі на $542 мільёны. Страты ад экспарту сырой нафты ацэньваюцца ў $116,4 мільёна.

Варта заўважыць, што першы квартал і студзень-люты — гэта месяцы, «свабодныя ад каронавіруса». Гэта значыць, калі ўсе працавалі, як звычайна, і ў нас была толькі адна праблема — пастаўкі нафты. Што будзе ў другім квартале?

«Неспрыяльная эпідэміялагічная сітуацыя будзе аказваць пэўнае карэктуючае ўздзеянне на тэмпы росту ВУП. Лічбы вядомыя. Многія міжнародныя агенцтвы ўжо іх агучылі. Міністэрства эканомікі таксама падрыхтавала шэраг прагнозных разлікаў. І мы думаем, што мы будзем блізкія да тых лічбаў, якія агучваюць нашы замежныя партнёры», — сказаў Дзмітрый Матусевіч.

Звярніце ўвагу на рыторыку чыноўніка: «карэктуючае ўздзеянне на тэмпы росту ВУП». «Росту» — пры тым, што розныя фінансавыя арганізацыі ніякага росту нават не праглядаюць, а хутчэй — наадварот. МВФ прагназуе на гэты год скарачэнне беларускай эканомікі на 6%, Сусветны банк — на 4%, Еўразійскі банк развіцця — на 3,3%.

**Грошай няма не толькі ў насельніцтва, але і ў банкаў. Беларусь звярнулася да Азіяцкага банка інфраструктурных інвестыцый, каб атрымаць крэдыт на падтрымку буйных дзяржбанкаў! Калі тыя, хто павінен выдаваць крэдыты, самі бяруць крэдыты — пра што гэта сведчыць?**

Матусевіч не стаў удакладняць, якія менавіта лічбы з гэтага «росту» ён мае на ўвазе, і якія менавіта замежныя партнёры агучваюць лічбы, да якіх мы будзем «блізкія». Быццам бы, я ані разу не бачыў прагнозаў развіцця беларускай эканомікі ад Паўночнай Карэі. Там, вядома, таксама «эканамічны цуд» у асобна ўзятай краіне, але пра нас яны наўрад ці ведаюць.

Прагноз жа «развіцця беларускай эканомікі» відавочны на побытавым узроўні. Паводле звестак на 1 красавіка (больш дакладнай статыстыкі пакуль няма), запазычанасць беларусаў па крэдытах банкам дасягнула 14,8 мільярда рублёў, павялічыўшыся на 433 мільёны рублёў. Пры гэтым у сакавіку рост даўгоў быў максімальным за апошнія месяцы. Па спажывецкіх крэдытах беларусы вінныя банкам 5,8 мільярда рублёў, па крэдытах на нерухомасць — 8,9 мільярда.

Гэта азначае, што каронавірус зачапіў не толькі тых, хто заразіўся, а ледзь не ўсіх і кожнага. З-за скарачэння працоўнага часу, рэжымаў «аддаленай працы» і іншых «радасцяў эпідэміі» ў людзей не засталося грошай — і яны пайшлі ў банкі па крэдыты. Пра які «рост ВУП» можна казаць, калі ў людзей у кішэнях пуста?

Яшчэ 20 сакавіка Нацбанк рэкамендаваў камерцыйным банкам даць сваім кліентам крэдытныя вакацыі, гэта значыць, адтэрміноўку для кліентаў па выплаце крэдытаў — поўную або частковую. Аднак адбылася неверагодная рэч: камерцыйныя банкі адважыліся не паслухацца рэгулятара! Раней «рэкамендацыі» Нацбанка былі падобныя на загад, абавязковы для выканання. Цяпер жа шматлікія банкі проста прыпынілі выдачу крэдытаў або зрабілі больш жорсткімі ўмовы іх выдачы. Пра «крэдытныя вакацыі» гаворкі не ішло наогул.

Больш за тое: з 1 траўня вядучы банк краіны — «Беларусбанк» — закрыў крэдытаванне куплі жылля на другасным рынку. Крэдыты на гэтыя мэты не выдаюцца. Варта заўважыць, што з прыцягненнем крэдытаў менавіта гэтага банка ў 2019 годзе адбывалася больш за палова здзелак.

Гэта азначае, што грошай няма не толькі ў насельніцтва, але і ў банкаў. Дайшло да таго, што, па словах віцэ-прэм'ера Дзмітрыя Крутога, Беларусь звярнулася да Азіяцкага банка інфраструктурных інвестыцый, каб атрымаць крэдыт на... падтрымку буйных дзяржбанкаў!

«Пакуль дамовіліся з калегамі прапрацаваць вылучэнне лініі ў памеры $250 мільёнаў (першы транш) для "Беларусбанка" і $100 мільёнаў для Банка развіцця на падтрымку кампаній з найбольш пацярпелых сектараў», — цытуе Крутога БелТА.

Калі тыя, хто павінен выдаваць крэдыты, самі бяруць крэдыты — пра што гэта сведчыць?

Пры гэтым мы выдаткоўваем сродкі — і неблагія сродкі — на нікому не патрэбны парад, дый «Славянскі базар» у Віцебску ніхто яшчэ не адмяніў.

Так што пакуль пытанне адно: наколькі наша краіна блізкая да дэфолту?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Жаклін Перкінс



**Брытанскі ўрад падтрымлівае беларускія «незалежныя і непрадузятыя СМІ». Пра гэта заявіла пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі Жаклін Перкінс у сваім відэазвароце з нагоды Сусветнага дня свабоды прэсы, які адзначаўся 3 траўня.**

Пасол адзначыла, што ўспышка каронавіруса прывяла да вялікай колькасці супярэчлівай інфармацыі, у сувязі з чым узрасла роля медыя ў прадастаўленні людзям пэўных звестак. Перкінс выказала шкадаванне, што ў некаторых краінах існуе заканадаўства, якое абмяжоўвае свабоду слова, робяцца блакаванні інтэрнэту і адбываецца пераслед журналістаў.

Дыпламат адзначыла важнасць прафесійных прынцыпаў у працы журналістаў. «Асвятленне падзей павінна быць праўдзівым, дакладным, правераным, добрасумленным, бесстароннім і адказным», — сказала Перкінс.

Яна заявіла, што свабода прэсы з'яўляецца прыярытэтам для брытанскага ўрада, і выказала падтрымку беларускім медыя. «Карыстаючыся выпадкам, хачу яшчэ раз заявіць пра нашу падтрымку незалежных і непрадузятых СМІ і аддаць належнае намаганням беларускіх журналістаў, якія ў гэтых няпростых умовах даюць народу Беларусі такую неабходную інфармацыю», — сказала дыпламат.

## Ігар Карпенка



**Пад петыцыяй з патрабаваннем адстаўкі міністра адукацыі Беларусі падпісаліся 5 тысяч чалавек.**

У Адміністрацыю прэзідэнта накіраваная петыцыя з патрабаваннем адстаўкі міністра адукацыі Ігара Карпенкі, паведаміў ініцыятар кампаніі, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ігар Барысаў.

Палітык нагадаў, што збор подпісаў на платформе Petitions.by пачаўся 26 красавіка. За гэты час пад тэкстам падпісаліся 5058 чалавек. «Лічым, што міністр адукацыі Ігар Карпенка не справіўся з выклікамі, якія ўзніклі праз пандэмію каронавіруса, — гаворыцца ў петыцыі. — І гэта падстава, каб адправіць чыноўніка ў адстаўку і арганізаваць у краіне дыстанцыйнае навучанне».

Гэта ўжо не першая спроба выправіць Карпенку ў адстаўку, але самая масавая ў сваёй салідарнасці. Прэтэнзій да міністра адукацыі вельмі шмат. У прыватнасці, на думку аўтараў петыцыі, ён не здолеў арганізаваць дыстанцыйнае навучанне, не гарантаваў бяспеку навучэнцаў праз адмену ці перанос заняткаў, не праверыў тэхнічныя магчымасці для дыстанцыйнай адукацыі, не падтрымаў бясплатны доступ у інтэрнэт для навучэнцаў і настаўнікаў.

Нагадаем, што ў сувязі з пандэміяй каронавіруса вясновыя вакацыі для школьнікаў двойчы працягваліся на тыдзень (да 11 і 18 красавіка). Аднак 20 красавіка па патрабаванні Аляксандра Лукашэнкі пачаўся навучальны працэс у школах. Пры тым, што значная частка дзяцей заняткі не наведвае, праз што ўзніклі пытанні атэстацыі па выніках апошняй чвэрці.

## Аляксандр Глеб



**Пандэмія каронавіруса перашкодзіла нашаму славутаму футбалісту стаць трэнерам.**

Экс-паўабаронца лонданскага «Арсенала» і «Барселоны» не збіраецца вяртацца ў гульню. «Я душэўна канчаткова зразумеў, што менавіта з футболам ужо ўсё. Дастаткова, нагуляўся. Няма такога адчування, што хацелася б яшчэ дайграць, я не сумую менавіта па футболе. Але ўзнікае пытанне: што далей?» — распавёў Глеб у эфіры праграмы «Вялікі футбол».

«Калі б не гэты каронавірус, напэўна, стараўся б пайсці на трэнерскія курсы, неяк больш развівацца і вучыцца. Але цяпер я больш часу надаю сям'і, з-за гэтага, вядома, больш застаюся дома, імкнуся не выходзіць без вострай неабходнасці. Вядома, хочацца застацца ў футболе, хочацца развівацца і дапамагаць беларускаму футболу ісці наперад. На дадзены момант, дай Бог, каб мы ўсе гэтую заразу перажылі. А далей будзе відаць», — сказаў Глеб.

Можа, мы яго яшчэ пабачым у якасці трэнера?

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Роля сродкаў індывідуальнай абароны ў падтрыманні дэмакратыі

**Моцная дзяржава — гэта наша ўсё. Як тут ні прыгадаць «ліхія 90-я», калі ўлада літаральна валялася ў брудзе. Але беларусам пашанцавала: сярод лясоў і балот знайшлася ўнікальная асоба, якая здолела аб'яднаць вакол сябе пераважную частку грамадства і паказаць простыя і ясныя шляхі развіцця.**




Нашы суседзі на Поўначы і Захадзе гэтай прастаты і яснасці не ацанілі. Яны пайшлі не ад жыцця, а ад абстрактных лагічных пабудоў — і ў выніку сёння маюць тое, што маюць. Але і беларусы ў накладзе не засталіся. Тыя з землякоў, хто здолеў атрымаць шэнгенскую візу, да нядаўняга часу мелі магчымасць на свае вочы назіраць сумныя наступствы няслушнага стратэгічнага выбару сваіх суседзяў, а заадно — купляць разнастайныя тавары.

Каб шопінг канчаткова не спустошыў паліцы еўрапейскіх супер- і гіпермаркетаў, родная моцная дзяржава вымушана перыядычна рабіць больш жорсткім указ «Аб перамяшчэнні праз мытную мяжу Мытнага саюза ў Рэспубліцы Беларусь тавараў для асабістага карыстання». Чарговае ўзмацненне жорсткасці было апублікавана 14 красавіка. Рэкамендую азнаёміцца з ім, каб не наклікаць на сваю галаву непрыемнасцяў пасля заканчэння пандэміі.

Каронавірус, здавалася б, паставіў крыж на магчымасці суайчыннікаў любавацца культурнай і эканамічнай дэградацыяй неразумных еўрапейцаў. Але не варта адчайвацца. Эпідэміі прыходзяць і сыходзяць, а дэградацыя, выкліканая адмовай ад будаўніцтва моцнай дзяржавы, — працэс перманентны (ад лацінскага «permanens» — «застаючыся»). На яе яшчэ нашы дзеці і ўнукі могуць атрымаць асалоду ўдосталь наглядзецца.

Высвятляць, на чыім баку праўда ў спрэчцы прыхільнікаў і праціўнікаў моцнай дзяржавы — справа няўдзячная. Усё залежыць ад культурнага кантэксту, што і было наглядна прадэманстравана на прыкладзе поспехаў/няўдач у барацьбе з распаўсюджваннем каронавіруса.

У Беларусі рэгулярна спасылаюцца на досвед Швецыі, якая адмовілася ад жорсткага каранціну. Між тым, адсутнасць патрабаванняў з боку дзяржавы не азначае, што шведы працягваюць жыць дакаронавірусным жыццём. Для таго, каб захоўваць сацыяльную дыстанцыю і выконваць іншыя патрабаванні гігіены, ім цалкам хапае рэкамендацый спецыялістаў у інтэрнэце.

Сёння ўменне знаходзіць у сусветным павуцінні карысную інфармацыю і адрозніваць людзей сучасных ад архаікаў, для якіх інтэрнэт — толькі інфармацыйная памыйніца, перапоўненая фэйкамі.

### Непераканаўчая статыстыка

Вопыт ліберальнай Швецыі, безумоўна, цікавы беларускім уладам, якія вырашылі і ў барацьбе з каронавірусам ісці сваім шляхам, але было б дзіўна, калі б дзяржаўная прапаганда не звярнулася да вопыту Кітая. Як жа без яго, як жа без міфа пра перавагі ў крызісных сітуацыях цэнтралізаванай улады над уладай дэмакратычнай?

Аднак я б не рэкамендаваў захапляцца вопытам кітайскіх таварышаў. З'яўленне першага кластара пнеўманіі з невядомай этыялогіяй лекары Уханя зафіксавалі 21 снежня, а ўжо праз 4 дні яны атрымалі пераканаўчыя доказы, што вірус перадаецца ад чалавека да чалавека. Але для таго, каб прызнаць гэты медыцынскі факт, моцнай кітайскай дзяржаве спатрэбілася 45 дзён!

Усвядоміўшы небяспеку, кітайскія таварышы заблакавалі любыя перамяшчэнні з Уханя ва ўнутраныя раёны краіны, але не адмянілі замежныя авіярэйсы. У выніку дзясяткі тысяч чалавек вылецелі толькі ў ЗША ўжо пасля таго, як у горадзе быў уведзены каранцін. Ці не спрычыніўся такі выбарачны падыход кітайцаў да ператварэння Нью-Ёрка ў галоўны ачаг эпідэміі, у той час як Пекін чаша гэтая абмінула?

На сайце ўніверсітэта Джона Хопкінса колькасць інфікаваных у Кітаі практычна не расце, а Расія, якая саступае Паднябеснай у дзесяць разоў па колькасці насельніцтва, штодня дадае па 9 тысяч інфікаваных каронавірусам.

Аднак да любой статыстыкі, якая тычыцца распаўсюджвання каронавіруса, варта ставіцца без фанатызму, а да кітайскай — тым больш. Актуальнасць гэтай высновы ўзрасла шматкроць пасля таго, як кітайскія таварышы афіцыйна прызналі, што не ўлічвалі тых, хто дэманстраваў сімптомы захворвання пры наяўнасці станоўчых тэстаў. Такім чынам, яны заніжалі колькасць інфікаваных у 4–5 разоў!

Тым не менш поспехі ў барацьбе з распаўсюджваннем каронавіруса ўнутры Кітая, безумоўна, маюцца. Але і ў суседніх краінах яны значныя. Напрыклад, у В'етнаме і ў Рэспубліцы Карэя. Дык, можа, справа не ў сіле ўлады, а ў культуры народаў Паўднёва-Усходняй Азіі?

### Шчыра і прыгожа

Для тых, хто сумняваецца ў здольнасці дэмакратый мабілізаваць насельніцтва ва ўмовах крызісаў, я прывяду цытату з мемуараў асабістага архітэктара Гітлера, рэйхсміністра ўзбраенняў і боепрыпасаў Альберта Шпеера: «Татальная мабілізацыя рабочай сілы ў дэмакратычнай Англіі і досыць нядбайнае стаўленне да вырашэння гэтай праблемы ў Германіі сведчылі пра тое, што, як ні дзіўна, менавіта аўтарытарны рэжым імкнуўся прыцягнуць на свой бок сімпатыі народа. Баючыся выклікаць незадаволенасць народных масаў прымушала марнаваць на вытворчасць тавараў народнага спажывання, выплаты дапамогаў удзельнікам вайны і кампенсацыі жанчынам, якія страцілі ў заробку праз сыход мужоў на фронт, значна больш сродкаў, чым выдаткоўвалі ўрады дэмакратычных дзяржаў».

Гітлер, у адрозненне ад Англіі, так і не адважыўся ўвесці ў Германіі працоўную павіннасць для жанчын. Яго нясмелая спроба ў 1942 годзе сустрэла жорсткі супраціў з боку гаўляйтараў, і фюрэр быў вымушаны адступіць.

Знаёмая сітуацыя, пагадзіцеся. Адштурхнуся ад прымаўкі «вайна вайной, а абед згодна з раскладам» — і адважуся прапанаваць яе злёгку абноўлены варыянт: «эпідэмія эпідэміяй, а так званыя прэзідэнцкія выбары ў Беларусі пройдуць у абумоўленыя заканадаўствам тэрміны». Тым больш, што наш галоўны спецыяліст па правядзенні выбарчых кампаній, старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына пра бяспеку чальцоў выбарчых камісій ужо паклапацілася. Дам ёй слова: «Усё будзе залежаць ад абстаноўкі (з каронавірусам), калі сітуацыя будзе складаная, то чальцам выбарчых камісій выдадуць сродкі індывідуальнай абароны — маскі і пальчаткі. А можа, адзенем празрыстыя ахоўныя шчыткі».

Я яшчэ адно такое ж выдатнае выказванне: «З пункту гледжання тэхнічных момантаў выбарчая кампанія ў складаных эпідэмічных умовах не будзе асаблівай — бо заканадаўства не змянялася».

Ды ніхто і не сумняваецца ў тым, што каронавірус не зможа паўплываць на ход і вынікі выбараў. Яны пройдуць як заўсёды — гэта значыць сумленна і прыгожа. Не адаб'ецца псіхоз, раздзьмуты недзяржаўнымі СМІ, і на яўцы. Яна ў нас з 1996 года жыве сваім жыццём і практычна ні ад якіх знешніх і ўнутраных псіхозаў не залежыць.

**ВУП зніжаецца, а заробак расце. Як доўга будзе працягвацца гэты рух і чым усё скончыцца? Тым, хто яшчэ памятае, чым абярнулася аналагічная шчодрасць у 2010 годзе, не трэба падказваць адказы**

### На сустрэчных курсах

Але які б узровень прафесіяналізму ні дэманстраваў беларускі ЦВК, заўвага былога рэйхсміністра ўзбраенняў і боепрыпасаў наконт імкнення аўтарытарных рэжымаў прыцягваць «на свой бок сімпатыі народа» актуальнасці не страціла.

У год галоўнай электаральнай кампаніі ў Беларусі традыцыйна працягвае расці сярэдні заробак. Ні нафтагазавыя разборкі з Расіяй, старт якім быў дадзены ў снежні 2018 года, ні падзенне знешняга попыту на традыцыйныя беларускія тавары з-за каронавіруса не ў стане спыніць атракцыён нечуванай сацыяльнай шчодрасці.

Згодна з апошняй інфармацыяй ад Белстата, намінальная налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў у сакавіку склала 1213,6 рубля, што на 93,8 рубля або 8% больш, чым у лютым.

ВУП зніжаецца, а заробак расце. Як доўга будзе працягвацца гэты рух на сустрэчных курсах і чым усё скончыцца? Тым, хто яшчэ памятае, чым абярнулася аналагічная шчодрасць у 2010 годзе, спадзяюся, не трэба падказваць адказы.

Ці ёсць шанец збочыць з пратаптанай за чвэрць стагоддзя дарожкі? Выключна тэарэтычны, не больш. Калі гадамі прапаганда пераконвала, што адзіны палітык (АП) лепш за ўсіх разумніках, разам узятых, ведае, як забяспечыць развіццё краіны, — прызнанне памылак можа падвесці рысу пад яго палітычнай кар'ерай. Пры гэтым неабходна памятаць кіраўнічую аксіёму: «Той, хто імкнецца ўсім кіраваць, вымушаны за ўсё адказваць».

Пра яе існаванне АП ведае, і нагадаў гэта свайму атачэнню 21 красавіка падчас рабочай паездкі ў Бабруйск: «Я, напэўна, залішне бяру на сябе адказнасць. Я на сябе ўвесь гэты груз усклаў. <…> Укладзі я адказнасць, не ўкладзі, вы ж усё роўна з мяне спытаеце. Такая практыка ў нас ужо ў краіне…» На жаль, «такая практыка» так ні разу і не была рэалізаваная на практыцы. Таму безадказнасць — адна з базавых характарыстык беларускай мадэлі, што стала асабліва прыкметна ва ўмовах крызісу.

# Нараджаныя ў палоне

« Заканчэнне.
Пачатак на на стар. 1

У Нарвегіі факт нараджэння дзяцей не рэгістраваўся ні ў грамадзянскіх актах, ні ў царкоўных метрыках. Юрыю Сальнікаву ў кастрычніку 2005 года мінула 60 гадоў, калі ён нарэшце атрымаў пацверджанне таго, што быў народжаны ў Нарвегіі ў канцы 1944 года. Пацвердзіць гэтыя звесткі атрымалася дзякуючы электронным архівам, якія захоўваюць спісы з імёнамі савецкіх палонных, перапраўленых у Савецкі Саюз з нарвежскага Нарвіка праз шведскі партовы горад Лулеа летам 1945 года.

Савецкія ваеннапалонныя, як і грамадзянскія асобы, так званыя «остарбайтары», былі адпраўленыя ў Нарвегію яшчэ ў жніўні 1941 года з прычыны дэфіцыту насельніцтва, гатовага займацца некваліфікаванай працай. Іх даставілі ў Будзё ўжо ў верасні 1941 года. 22 чэрвеня 1942 года нямецкі марскі транспарцёр «Левантэ» даставіў у Хамерфэст 700 савецкіх ваеннапалонных. 150 маладых жанчын, захопленых у палон на тэрыторыі ўсходнееўрапейскіх дзяржаў і СССР, былі прымусова адпраўленыя на працу на рыбазаводы. Гэта першы даступны дакумент, які сведчыць аб прыбыцці жанчын з Усходняй Еўропы, аднак вядома таксама, што палонныя дастаўляліся і ўвосень 1942 года.

Пачынаючы з чэрвеня 1942 года савецкія ваеннапалонныя і мірныя жыхары, адпраўленыя на прымусовыя работы, дастаўляліся на завод «Фростфіле» ў Лангестрандзе. Яны працавалі поплеч з нарвежскімі супрацоўнікамі. Жанчыны на новым канвееры па падрыхтоўцы рыбнага філе займаліся раздзелкай, узважваннем і пакаваннем.



**Беларус Міхаіл Петручэня (злева) і яшчэ адзін ваеннапалонны, а таксама 11-гадовы Колбейн і яго мама.**
Фота прадастаўлена Пэрам Еўнэ

### Хто яны — савецкія палонныя ў Нарвегіі?

Да нядаўняга часу існаванне савецкіх палонных, іх уклад у развіццё прамысловасці Нарвегіі ў гады вайны, роўна як і гісторыі іх лёсаў пасля вяртання ў Савецкі Саюз, заставалася таямніцай. Некаторыя нарвежцы самі ўспамінаюць пра рускіх палонных, аднак выяўлена вельмі мала дакументаў, якія сведчаць пра іх знаходжанне ў Нарвегіі і іх далейшыя лёсы.

Паняволеных работнікаў з Усходу, якія працавалі на рыбазаводзе ў Лангстрандзе, мясцовыя жыхары часцяком называлі ўкраінцамі. У Хамерфэсце палонных работніц з СССР называлі «русіэнтэ». Пры



**Фатаграфія фабрыкі Frostfilet A / S за межамі Будзё падчас Другой сусветнай вайны.** Фота прадастаўлена Музеем вайны ў Будзё

дэталёвым аналізе стала бачна, што мужчыны былі родам з многіх гарадоў Савецкага Саюза, роўна як і з іншых акупаваных краін. Жанчыны былі захопленыя ў палон і адпраўленыя на прымусовыя работы з Расіі, Беларусі і Украіны, большасць з іх — рускія з гарадоў і вёсак. 52 жанчыны нарадзілі дзяцей у апошні год вайны.

Прасачыць лёсы гэтых людзей стала складанай задачай як у Нарвегіі, так і на постсавецкай прасторы. Даследчыкам удалося выявіць пецярых з іх, трох дзяцей і дзвюх маці. Надзеі Лакуцінай, Юрыю Сальнікаву і Валянціне Сцёпінай ужо за 70. Дзве прымусовыя работніцы, Ганна Каляда і Марфа Максімаўна Сцёпіна, яшчэ нядаўна былі жывыя, яны далі інтэрв'ю, іх успаміны былі часткова запісаныя.

У Лулеа 8 траўня 2005 года была адкрыта мемарыяльная пліта, якая ўвекавечыла памяць 24 399 савецкіх ваеннапалонных і прымусовых работнікаў, якія былі перапраўленыя на цягніках з Нарвіка ў Лулеа для вяртання ў СССР летам 1945 года.

У сваю чаргу, мастак Юрый Сальнікаў стварыў макет для скульптуры, якую хоча падарыць гораду Будзё, дзе ён нарадзіўся. Скульптура выяўляе жанчыну, якая стаіць на вятры, — яна так і называецца «Жанчына на вятры». Вецер і холад былі штодзённымі спадарожнікамі палонных на іх шляху з лагера на фабрыку раніцай і ўвечары. Сёння ёсць магчымасць усталяваць мемарыял, прысвечаны гэтым людзям, калі аўтар знойдзе фінансавую падтрымку.

Вядома, што бацькі некаторых дзяцей, што нарадзіліся ў лагеры ў горадзе Будзё падчас вайны, паходзілі з Беларусі. Так, ваеннапалонны з Беларусі Міхаіл Дамінікавіч Петручэня з Салтанаўшчыны быў змешчаны на ферму пад Тронхеймам, дзе ён атрымліваў ежу і ляччэнне ў апошнія месяцы вайны. На ферме ў яго з'явіўся добры сябра, 11-гадовы хлопчык па імені Колбейн. Некалькі гадоў таму нарвежскі журналіст Пэр Еўнэ знайшоў Міхаіла і прывёз Колбейна ў Беларусь, каб яны маглі сустрэцца зноў.

А вось імёны людзей з Беларусі, якіх усё яшчэ шукаюць:

**Курэева (Кірэева?) Кацярына Фёдараўна** (1925) з Магілёва. Яе сын **Яўген Міхайлавіч**, нарадзіўся ў Нарвегіі 05.01.1944.

**Арлоўская Марыя Васільеўна** (01.01.1922) з Магілёва. Яе дачка **Арлоўская Святлана Аляксандраўна**, нарадзілася ў Нарвегіі 01.01.1945.

**Сяднёў Яўген Пятровіч**, нарадзіўся ў Нарвегіі 16.12.1944. Бацька **Пётр Васільевіч** (1920), маці **Сяднёва Зінаіда Аляксееўна** (1910).

«Ці магчыма сёння знайсці гэтых дзяцей ці іх сем'і?» — задаецца пытаннем журналіст Пэр Еўнэ.

*Мы паспрабуем дапамагчы нарвежскім даследчыкам. «Новы Час» ужо накіраваў запыты пра гэтых людзей у Архіў органаў ЗАГС Магілёўскай вобласці, а таксама ў Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці. Мы таксама просім вас, дарагія чытачы, адгукнуцца, калі вы ведаеце штосьці пра іх лёсы, каб яны не былі забытыя.*



**Фатаграфія фабрыкі Frostfilet A / S за межамі Будзё падчас Другой сусветнай вайны.** Фота прадастаўлена Музеем вайны ў Будзё



Фота прадастаўлена Музеем вайны ў Будзё

# «Вірус — ад перапуду»

## Як дапамагаюць бяздомным у час пандэміі, у якую яны не вераць

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Stay at home (заставайцеся дома) — самы папулярны сёлета ў свеце лозунг у сувязі з пандэміяй COVID-19. Але ёсць тыя, хто пры ўсім жаданні не можа яго прытрымлівацца, і гаворка тут не пра дактароў. Бяздомныя — адна з уразлівых груп падчас пандэміі. Але ці ўсведамляюць гэта яны самі? Ці змянілася іх жыццё ў сувязі з распаўсюджваннем каронавіруснай інфекцыі? І што робяць валанцёры і арганізацыі, каб ім дапамагчы?**



Валанцёры раздаюць ежу бяздомным

### Як заставацца дома тым, у каго яго няма?

Толькі афіцыйна ў Мінску зарэгістравана тры сотні бяздомных. Гэта тыя, хто перыядычна начуе ў дзяржаўным доме начнога знаходжання на вуліцы Ваўпшасава. Тут людзям без пэўнага месца жыхарства, апроч начлегу, прадастаўляюць адзенне, абутак, забяспечваюць прадуктамі харчавання за кошт гуманітарнай і дабрачыннай дапамогі, могуць аказаць першую медыцынскую дапамогу, дапамагаюць у атрыманні дакументаў. Але тут дзейнічае важнае правіла: у начлежку пускаюць толькі людзей у цвярозым стане.

Цяпер ва ўстанове, разлічанай на аднвчасовае знаходжанне 92 чалавек, пражываюць каля 80 бяздомных. Некалькі тыдняў таму тут усталявалі дадатковую палатку на 20 месцаў на выпадак, калі ложкаў у начлежцы не будзе хапаць.

— Цяпер у нас усё спакойна, выпадкаў заражэння каронавірусам няма. Але мы падрыхтаваліся да непрадбачаных сітуацый: абмежавалі наведванні для староніх, памяшканні апрацоўваем кожныя тры гадзіны, вымяраем тэмпературу тым, хто пражывае, і персаналу два разы на дзень, а на ўваходзе ёсць інфрачырвоны тэрмометр. Калі бяздомны дрэнна сябе адчувае або кантактаваў з хворым, адпраўляем у паліклініку, — распавёў дырэктар ДУ «Дом начнога знаходжання асоб без пэўнага месца жыхарства» Павел Залатухін.

У Беларусі дзяржаўныя дамы начнога знаходжання ёсць у Мінску, Гродне, Лідзе, Віцебску, Оршы, Магілёве, Бабруйску, Барысаве і Салігорску. Ёсць і шэраг недзяржаўных ініцыятыў, пераважна рэлігійных, якія прадастаўляюць бяздомным начлег, ежу, дапамагаюць з адзеннем і медыкаментамі. Разам з тым вялікая маса людзей працягвае заставацца без даху над галавой і жыве наўпрост на вуліцах, начуючы ў пад'ездах, падвалах, пад мастамі, на цеплатрасах... Для кагосьці такі лад жыцця — нешчаслівы збег абставінаў, а для некага — свядомы выбар.

Так ці інакш, гэтыя людзі збольшага застаюцца пазбаўленымі неабходных санітарных умоваў, збалансаванага харчавання, паўнавартаснай медыцынскай дапамогі, яны часта маюць слабы імунітэт і хранічныя захворванні, ім няма дзе самаізалявацца. Да таго ж, як правіла, гэта людзі ўзросту, старэйшага за сярэдні, і паклапаціцца пра іх няма каму.

### Сродкаў абароны хапае

У Мінску бяздомным дапамагаюць і неабыякавыя людзі. Журналістка і грамадская актывістка Яўгенія Доўгая ініцыявала пашыў і раздачу бяздомным шматразовых масак і сродкаў гігіены па ўсёй краіне: ужо раздалі 870 масак, таксама было закуплена 950 пар пальчатак, каля 20 літраў антысептыку і 300 кавалкаў мыла. Маскі дапамагала шыць сацыяльная майстэрня «ТАК», дзе занятыя людзі з асаблівасцямі, а таксама дзве жанчыны-валанцёркі.

— Бяздомныя пастаянна хварэюць на пнеўманію. Я назіраю, што людзей, якія прыходзілі на раздачу ежы валанцёрамі два гады таму, ужо амаль няма — яны паміраюць, — кажа Яўгенія Доўгая.

У Мінску маскі распаўсюджвалі ўжо пяць разоў, апроч таго, сродкі індывідуальнай абароны накіравалі ў дамы начнога знаходжання і валанцёрам у Барысаў, Брэст, Гродна, Віцебск, Магілёў, раздалі бяздомным ля цэркваў.




Па словах Яўгеніі, падчас першай раздачы масак бяздомныя бралі іх неахвотна. Але ў другі раз сітуацыя кардынальна змянілася: маскі разабралі за лічаныя хвіліны, некаторыя казалі пры гэтым, што нядаўна перахварэлі. Што праўда, на наступную раздачу яны зноў прыходзяць без масак, хаця многія бралі па некалькі штук.

— Праблема ў тым, што мы можам іх папярэдзіць, але не можам прымусіць насіць маскі. У мяне склалася адчуванне, што яны думаюць, нібыта перажылі ўжо ўсё, што можна, таму вірус для іх не страшны. Аднак калі запытваешся, ці возьмуць яны маску, адказваюць: «Канешне, вазьму!» Мне здаецца, што гэта больш абарончая рэакцыя, бо паміраць нікому не хочацца.

**«Мы можам іх папярэдзіць, але не можам прымусіць насіць маскі. У мяне склалася адчуванне, што яны думаюць, нібыта перажылі ўжо ўсё, што можна, таму вірус для іх не страшны. Аднак калі запытваешся, ці возьмуць яны маску, адказваюць: "Канешне, вазьму!"»**

Многія крытычна паставіліся да ініцыятывы раздачы бяздомным масак: маўляў, з тым ладам жыцця, які яны вядуць, маскі ім не дапамогуць. Але Яўгенія Доўгая перакананая, што маскі раздаваць трэба, і неабходна тлумачыць, чаму гэта важна.

Апроч масак бяздомным раздавалі мыла. Антысептыкі ім выдаць не могуць, бо ёсць небяспека, што іх вып'юць.

Па словах Яўгеніі, цяпер на раздачы стала прыходзіць нашмат больш бяздомных, чым раней, бо многія арганізацыі перасталі аказваць ім дапамогу.

Збор грошай на сродкі індывідуальнай абароны для бяздомных вялі на платформе MOLAMOLA. Беларусы сабралі больш за 4000 рублёў, а адна з дзяржаўных аптэк бясплатна выдзеліла шэсць літраў антысептыку.

— Я проста плакала ад такой салідарнасці, бо ніколі ў жыцці не думала, што да бяздомных камусьці будзе справа. Дапамагалі вельмі розныя людзі, — прызнаецца Яўгенія. — Пакуль мы закрылі збор, бо масак да лета дакладна хопіць.

У выпадку, калі масак не будзе хапаць, дапамагчы бяздомным паабяцалі каардынатары іншых грамадзянскіх ініцыятываў, а актывісты кампаніі ByCovid19 перадалі рэспіратары валанцёрам, якія кормяць людзей без даху над галавой.

Таксама пальчаткі, маскі, антыбактэрыяльныя сурвэткі і антысептыкі перадалі аднаму з філіялаў Чырвонага Крыжа ў Мінску. Бяздомныя цяпер — асабліва ўразлівая катэгорыя, лічаць у Мінскай гарадской арганізацыі Чырвонага Крыжа. Паколькі яны могуць не толькі самі заразіцца каронавіруснай інфекцыяй, але і стаць яе пераносчыкамі, іх заклікаюць мінімізаваць перамяшчэнне па горадзе і заставацца ў доме начнога знаходжання. І, канешне, бяздомным аказваюць памоцную гуманітарную дапамогу. Агулам падчас дабрачыннай акцыі 23 красавіка валанцёры Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа сабралі і даставілі ў дом начнога знаходжання ў Мінску больш за 590 пачкаў супу, амаль 1,5 тысячы каробак гарбаты, 270 бляшанак кавы, 700 пар пальчатак, 22 бутэлькі антысептыкаў і геляў для апрацоўкі рук, 122 маскі, 20 коўдраў, 10 раскладанак, каля 1,7 тысячы адзінак посуду, скрыню тушонкі.

### Валанцёры засцерагаюцца, бяздомныя — не

У Мінску маскі распаўсюджваюць падчас штотыднёвай раздачы ежы бяздомным актывістамі міжнароднай ініцыятывы «Ежа замест бомбаў», якая існуе ўжо 14 гадоў. Ёсць некалькі кропак раздачы. Адна з іх — Міхайлаўскі сквер недалёка ад вакзала. У суботу ў прызначаны час тут збіраецца некалькі дзясяткаў чалавек, якія збольшага стаяць арганізаванай групай і чакаюць, калі з'явяцца валанцёры з бітонамі. Напагатове яны трымаюць у руках няхітры посуд: «талеркі» з адрэзаных пластыкавых пяцілітровікаў з-пад вады, шкляныя слоікі. Масак у іх на тварах няма, пра бяспечную дыстанцыю адзін паміж адным казаць таксама не выпадае.

Пакуль валанцёры з ежай не прыйшлі, дзве адной з лавак падыходзяць дзве дзяўчыны і адзяваюць абарончыя касцюмы, маскі, пальчаткі, раскладваюць арганайзер з медыкаментамі. Каля іх імгненна вырастае чарга — пачынае працу яшчэ адна ініцыятыва дапамогі бяздомным «Вулічная медыцына». Да дзяўчат літаральна не падступіцца, хаця яны заклікаюць трымаць дыстанцыю. Людзі просяць пластыр, абязбольвальныя, нешта ад ціску. Плынь пацыентаў не спадае, нават калі нарэшце прыносяць ежу, толькі некалькі чалавек у хвасце чаргі аддзяляюцца ад яе са словамі «Хадзем абедаць».

Ад нядаўняга часу валанцёры сталі прымаць дадатковыя захады бяспекі: адзяваюць маскі, пальчаткі, выкарыстоўваюць антыбактэрыяльныя сурвэткі.

«Спачатку вам апрацуюць рукі антысептыкам, проста

падстаўце далоні!» — абвяшчаюць валанцёры, і адна з дзяўчат з белай бутэлечкай пачынае рухацца ўздоўж чаргі, ліючы ў паслухмяна працягнутыя рукі сродак.

Тым часам іншыя валанцёры накладаюць у посуд бяздомных плоў без мяса (стравы гатуюць толькі веганскія, паколькі «Ежа замест бомбаў» не падтрымлівае ўсё, што звязана з гвалтам), наліваюць гарбату, выдаюць хлеб. Людзі хутка бяруць свае порцыі і паспешліва адыходзяць убок, прапускаючы наступнага ў чарзе.

Актывіст «Ежы замест бомбаў» Мікіта распавядае, што з пачаткам пандэміі на раздачу стала прыходзіць больш людзей, таму што многія сталовыя зачыніліся.

— Раней прыходзіла чалавек 20, цяпер — 40–50, гэта асноўнае, што змянілася. Таксама мы сталі прымяняць сродкі індывідуальнай абароны, апрацоўваць рукі. Спрабавалі сёння стварыць дыстанцыю, але гэта, напэўна, не з першага разу. Спадзяюся, з часам атрымаецца, калі будзем паўтараць некалькі разоў, бо прымяняць рэпрэсіўныя метады не хочацца.

Увогуле, актывісты ініцыятывы называюць свой занятак не дабрачыннасцю, а ўзаемадапамогай.

— У аснове палягае прынцып, што мы знаходзімся толькі на адну прыступачку вышэй за гэтых людзей па сацыяльнай іерархіі, таму павінны дапамагаць ім як прыгнечаным. Мы лічым, што цяперашняе ўладкаванне — капіталізм — несправядлівае, няроўнае размеркаванне рэсурсаў вядзе да таго, што існуюць бяздомныя і багацеі. Пакуль такая сістэма будзе існаваць, будуць існаваць і бяздомныя, таму мы пратэстуем супраць няроўнага размеркавання рэсурсаў, — тлумачыць Мікіта.

Праз такую пратэстную пазіцыю і прыналежнасць да анархісцкага руху актывісты часта мелі праблемы з міліцыяй, траплялі пад затрыманні і пераслед. Але апошнім часам іх не чапаюць, хіба што падчас леташніх Еўрагульняў валанцёраў прасілі не карміць бяздомных у людных месцах, а сысці ў двары.

Па словах Мікіты, з размоваў з бяздомнымі вынікае, што іх не надта хвалюе пытанне распаўсюджвання каронавіруснай інфекцыі, і ўвогуле пандэмія ніяк не змяніла іх жыццё.

## «Вірус-та ёсць, але я ў яго не веру»

Тым часам Яўгенія Доўгая раздае людзям маскі, многія з тых, хто прыйшоў, ёй ужо знаёмыя.

— А дзе ваша маска, чаму не носіце? — пытаецца яна ў сталай жанчыны ў куртцы з леапардавым прынтам, якой давала маску ў мінулы раз. Хоць апранута жанчына надзвычай сціпла, у яе ёсць жытло, а таксама муж, які не ходзіць.

— Ёсць, я ў ёй у краму хаджу, яна ў мяне з сабой, — ахвотна адгукаецца тая. — Я яе памыю — і прасам з двух бакоў.

Сярод тых, хто сабраўся, заўважаю жанчыну ў масцы, якую яна атрымала яўна не сёння. Запытваюся, чаму яна яе носіць.

— Справа ў тым, што я працую на вахце, і там заўжды патрабуюць. Нават галовы праўраюць! Але зрэдку, бывае, крышачку выпіваю, — нечакана прызнаецца яна. — Але маску нашу, рукі апрацоўваю і па 20–30 секунд мыю!

— А што вы думаеце пра вірус?

— Я не веру ў вірус. Не, вірус-та ёсць, але я ў яго не веру, — спрабуе патлумачыць суразмоўца, якую, як высвятляецца, клічуць Марыя.

— Вірус — ад перапуду. Калі прачышчаеш арганізм алкаголем, ніякі вірус цябе не возьме. Але ўмерана, — прыходзіць на дапамогу жанчыне яе сябра Коля, які стаіць побач.

— Але маску я і для сябе нашу. У мяне ж ужо ўнукі ёсць, таму гэта хоць неяк абараняе, — дадае Марыя.




Парачка адыходзіць, і праз колькі хвілін я бачу ідылічную карціну: Марыя сядзіць на каленях у Колі і аб нечым замілавана яму гаворыць.

— А праўду кажуць, што тыя, хто выпіваюць, не хвараюць на вірус? — атрымаўшы порцыю плову, пытаецца рослы мужчына гадоў сарака з вялікім заплечнікам і чарцянятамі ў вачах.

— Няпраўда! — адгукаюцца валанцёры.

Запытваюся ў гэтага цікаўнага мужчыны пра яго стаўленне да інфекцыі.

— У мяне вышэйшая адукацыя, я ў гэтым шару, — запэўнівае ён мяне. — У аптэках валам было масак. Куды іх скідваць? А цяпер зайдзі спытай — няма. Гэта ўсё па-мінімуму, а калі ўзяць свет — уяўляеш, якое бабло там?

— Але ж людзі хварэюць і паміраюць.

— Людзі паміраюць заўсёды, як бы добра ні было. Гэта жыццё! Маё жыццё ніяк не памянялася. У мяне дзве клінічныя смерці былі, шнар ад пупа да сэрца — зашывалі, а вы кажаце — віруса мне баяцца? Дзеванькі, я вас умаляю!

— А маску не будзеце браць?

— Буду!

— А навошта яна вам?

— А няхай будзе!



Сродкі абароны падчас пандэміі




«Вулічная медыцына»

## Трывожнасць вырасла, а рацыянальных дзеянняў няма

Пасля ежы сквер паступова пусцее, і толькі каля «Вулічнай медыцыны» яшчэ застаюцца людзі. Каб паразмаўляць з актывісткамі ініцыятывы, даводзіцца чакаць. Нарэшце дзяўчаты вызваляюцца, але размаўляем на хаду: ініцыятарка праекта прыехала на прыём адразу з дзяжурства і хоча хутчэй трапіць дамоў, каб крыху адпачыць.

Яе завуць Карына Радчанка, яна студэнтка пятага курса медуніверсітэта і працуе медсястрой у адным з РНПЦ. Ужо больш за год яна штотыдзень ходзіць да бяздомных на вуліцы ці ў сталовыя, каб аказаць ім медыцынскую дапамогу.

— У людзей, з якімі мы працуем, часта ўвогуле няма магчымасці звярнуцца да доктара — ні з экстранай сітуацыяй, ні з планавай. Часта гэта звязана з адсутнасцю дакументаў, страхам. І ў гэтым выпадку мы раздаём безрэцэптурныя прэпараты, — распавядае Карына. — Таксама да нас прыходзяць некаторыя людзі з «дамашніх», як правіла, яны маламаёмасныя, і ў іх няма магчымасці купляць лекі, сачыць за лячэннем, рэгулярна прымаць прэпараты. Бо навошта ім ісці да ўрача выпісваць лекі, калі яны не могуць іх набыць? Але мы такіх людзей матывуем на звароты, тлумачым, што важна працягваць лячэнне.

Карына кажа, што актывісты «Вулічнай медыцыны» — а гэта заўжды медработнік і асістэнт, які запісвае даныя пацыентаў, вядзе статыстыку, — прымаюць усіх, хто да іх звяртаецца. Зразумела, што дыягностыку ў вулічных умовах правесці немагчыма — хіба што памераць ціск, таму рашэнне аб дапамозе прымаюць на месцы, сыходзячы са стану чалавека і яго скаргаў.

— Калі сітуацыя планавай тэрапіі і мы можам дапамагчы, то тлумачым чалавеку, як лячыцца, выдаем патрэбныя для пачатку тэрапіі прэпараты. Яму становіцца лепш, і ён робіцца больш матываваным на звароты да ўрача.

Карына зазначае, што з пачаткам пандэміі на вулічныя прыёмы стала прыходзіць больш людзей. На думку дзяўчыны, гэта звязана з тым, што некаторыя пункты дапамогі закрываюцца.

— Насамрэч я б не сказала, што для кожнага [бяздомнага] чалавека сітуацыя змянілася. Яна засталася такой жа, бо дапамогі як не было, так і няма. Верагодна, пагоршылася сітуацыя з харчаваннем, начлегам. Я б сказала, што вакол сродкаў абароны і бяздомнасці фарміруецца нейкі хайп. Адкрыта шмат збораў сродкаў на гэтыя патрэбы. На нашу карысць таксама была сабраная пэўная колькасць сродкаў, і мы замовілі і пашылі шматразовыя маскі, і сёння мы раздалі іх больш, хаця звычайна выдаем валанцёрам і тым, у каго ёсць сімптомы хваробы.

На думку Карыны, галоўная праблема цяпер у тым, што людзі не вытрымліваюць дыстанцыю, не перастаюць абдымацца, цалавацца і паціскаць адзін аднаму рукі. Таксама ў іх цяпер няма магчымасці выбіраць, дзе начаваць. Яна прыводзіць прыклад Нью-Ёрка, дзе цяпер некаторыя бяздомныя не ідуць у месцы начлегу, бо баяцца захварэць.

Што да саміх актывістаў «Вулічнай медыцыны», цяпер у дадатак да звычайных мер бяспекі яны сталі выкарыстоўваць абарончыя шчыткі, якія надрукавалі на 3D-прынтарах у майстэрні Хакерспейс і трымаць дыстанцыю. Пальчаткі, халаты, маскі, антысептыкі і шапачкі выкарыстоўвалі і раней.

— Сярод нашых пацыентаў трывожнасць таксама вырасла, але ніякай схемы дзейнасці ў іх галовах не з'явілася. Мы раздаём улёткі з інфармацыяй пра каронавірус, распавядаем, як сябе паводзіць, што рабіць, чаго не рабіць. Але пакуль усё складана. Трэба шмат разоў паўтараць адно і тое ж. Людзям страшна на ўзроўні нейкай панікі, а рацыянальнага пакуль не прыйшло.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### БЕЛЬГІЯ. Любіш радзіму — еш бульбу-фры!

Патрыятычныя бельгійскія выданні заклікалі суайчыннікаў дапамагчы вытворцам бульбы-фры. Гэтая страва — не толькі любімая ежа мясцовых жыхароў (першы запісаны ў Бельгіі рэцэпт прыгатавання бульбы-фры датаваны аж 1680 годам!), аднак і важны артыкул экспарту. Штогод бельгійцы прадаюць за мяжу 2,7 мільёна тон замарожанай бульбы-фры. Дакладней сказаць, прадавалі, паколькі з сярэдзіны сакавіка, калі ў краіне пачаў дзейнічаць каранцін, продажы моцна скараціліся.

Цяпер вытворцам бульбы-фры трэба нейкім чынам рэалізаваць тую прадукцыю, каб не стаць банкрутамі. Выратаваць сітуацыю, на думку прэсы, здольныя простыя бельгійцы. Калі кожны з іх два разы на тыдзень будзе набываць вялікую порцыю бульбы-фры, то гэты сектар гаспадаркі можа неяк захавацца.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Данецк — другая сталіца?

Дастаткова вядомы ўкраінскі тэлевядоўца Вячаслаў Піхоўшэк прыдумаў, як вярнуць Данецк у склад Украіны. На яго думку, сімпатыі на адрас Кіева ў Данбасе могуць узмацніцца, калі прапанаваць Данецку статус «другой сталіцы Украіны».

За прыклад, як мяркуе журналіст, можа быць узятая Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, дзе органы дзяржаўнай улады размяшчаюцца ў розных гарадах — Ёханесбургу і Прэторыі. Паўгода ўрад жыве ў адным горадзе, паўгода — у іншым. Падобная формула паўстала па ходзе гісторыі і з'яўляецца кампраміснай для вядучых палітычных сілаў у краіне.

Тую ж схему Піхоўшэк прапануе выкарыстоўваць ва Украіне. «Цяпер гэта можа здавацца фантастыкай, але калі б было дзве сталіцы, адной з якіх стаў бы Данецк, можа быць, гэта хаця б неяк збалансавала краіну», — кажа тэлевядучы. Пакуль рэакцыя на ініцыятыву не вельмі істотная, аднак яна, безумоўна, узмацніць лагер прыхільнікаў перагляду статусу Кіева як сталіцы. Шмат палітыкаў даўно заклікаюць перанесці сталіцу або хаця б нейкія міністэрствы ў іншыя гарады.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### БАНГЛАДЭШ. Рэкорд парушэння каранціну

Парушэнні рэжыму каранціну фіксуюцца практычна ў кожнай краіне, дзе ўведзеныя адпаведныя абмежаванні. Аднак абсалютны рэкорд парушэння санітарных правілаў належыць жыхарам Бангладэш.

На мінулым тыдні сто тысяч чалавек свядома парушылі каранцін, каб прыняць удзел у пахаванні 59-гадовага Майлана Ансары. Ён быў лідарам партыі мясцовых ісламскіх фундаменталістаў і абяцаў у выпадку перамогі ўвесці ў краіне законы шарыяту. Перспектыўны план сарваўся праз эпідэмію, ахвярай якой стаў у тым ліку і Ансары.

І, хутчэй за ўсё, гэта не фінал. Удзельнікі пахавання парушалі правіла, якое патрабуе ўтрымліваць дыстанцыю ў 6 футаў (прыкладна 3 метры), — прызнаўся кіраўнік мясцовага МУС. Ён таксама папрасіў прабачэння ў нацыі за тое, што рэсурсаў яго ведамства недастаткова, каб затрымаць сто тысяч чалавек.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. Брудны дыпламат



МЗС Таджыкістана накіравала ноту калегам Казахстана з-за эпізоду ў серыяле «Патруль», які выклікаў абурэнне таджыкаў.

Справа ў тым, што ў адным з эпізодаў з'яўляецца выдуманы таджыкскі дыпламат. Пры гэтым той дыпламат не валодае ніякімі мовамі, акрамя таджыкскай, мае брудны твар. Па сюжэце паліцэйскія прымушаюць героя памыць машыну, а затым і твар. Пасля гэтага яны, быццам бы, пазнаюць у дыпламаце чалавека, які знаходзіцца ў вышуку, і неўзабаве экстрадуюць яго на радзіму.

Абураны той сцэнай Душанбэ запатрабаваў ад Нур-Султана правесці «найхутчэйшы разгляд» згодна з заканадаўствам Казахстана на прадмет паклёпу і здзяйснення наўмысных дзеянняў, накіраваных на правакаванне міжнацыянальнай варожасці.

Цікава, што для ўладаў Казахстана барацьба з кіно — справа не новая. У 2006 годзе Казахстан выказаў абурэнне амерыканскім фільмам «Борат», у якім комік Саша Барон Коэн выконваў ролю выдуманага казахстанскага журналіста.

**Паводле казахстанскай прэсы**

# Карычневыя пярэваратні

Алег НОВІКАЎ

**Няма сумневаў, што 75 гадоў таму большасць немцаў успрыняла Акт аб капітуляцыі без жалю да нацысцкага рэжыму, што давёў краіну да катастрофы. Аднак былі тады і тыя, хто сыходзіў у нацысцкае падполле.**

На што яны спадзяваліся? Ці маглі дзесяць тысяч чалавек (прыкладна столькі чальцоў налічвала арганізаванае карычневае падполле) усур'ёз цягацца з мільёнамі жаўнераў антыгітлераўскай кааліцыі, якія знаходзіліся на той час у Германіі? Тым больш, што падпольная сетка нацыстаў была вельмі кволай. Па сутнасці, ствараць яе пачалі толькі ўвосень 1944-га. Да таго часу агучаная на публіцы думка пра тое, што працаўнік можа пераступіць межы святога Рэйха, цягнула на дзяржаўную здраду.

Але нейкая логіка ў стратэгіі нацысцкіх падпольшчыкаў усё ж была. Напрыклад, часткова стаўка рабілася на тое, каб спрыяць стварэнню ў пасляваеннай Германіі грамадскай атмасферы часоў Веймарскай рэспублікі. У палітычнай дыскусіі Веймара заўжды прысутнічала ідэя-фікс узяць рэванш за правал у Першай сусветнай вайне. У такой атмасферы ўздым нацыянал-радыкалаў у прынцыпе быў лагічным. Стварэнню Веймара–2, які павінен быў у выніку нарадзіць новы нацысцкі рэжым, планавалася дапамагчы штучна за кошт забойстваў дэмакратаў і пацыфістаў, дыверсій і гэтак далей. Зрэшты, былі ў падполлі і такія, хто верыў, што Адольф Гітлер жывы і вось-вось выйдзе са свайго бункеру, узброены ў дадатак атамным фугасам.

Напэўна, некаторыя ўласныя планы мелі і куратары падполля. Інфармацыю пра канспіратыўную сетку можна было прапанаваць акупацыйнай уладзе ў абмен на амністыю. Інакш цяжка зразумець, чаму за права ствараць падпольныя арганізацыі ў атачэнні Гітлера разгарнулася моцная канкурэнцыя. Ледзь не кожны бонза Рэйху (Борман, Гімлер, Лей, Кальтэнбрунер) прапаноўваў фюрэру свае паслугі. У выніку адзінай структуры так і не паўстала. Калі саюзнікі зайшлі на тэрыторыю Германіі, як мінімум тры фарміраванні намагаліся чыніць супраціў.

Найбольш падрыхтаваным і, адпаведна, эфектыўным сярод іх быў праект Werwolf (пярэварацень). У яго шэрагі рэкрутавалі сяброў Hitlerjungend — моладзевай секцыі партыі нацыстаў. Для 15–16-гадовых хлопцаў былі створаныя адукацыйныя цэнтры, слухачы якіх у тым ліку актыўна вывучалі савецкі вопыт.

Скончыць курсы яны не паспелі з-за пературбацый на фронце. З Захаду і Усходу на нямецкую тэрыторыю заходзілі часткі антыгітлераўскай кааліцыі. Пры гэтым стаўка нацыстаў на тое, што немцы, якія апынуліся ў тыле ворага, актыўна зоймуцца канспірацыяй, не апраўдалася. Больш за тое, у акупаваных зонах пачалі ўзнікаць правобразы грамадзянскіх адміністрацый. Раз'юшаны Гітлер зрабіў атачэнню такіператрах, што Гебельс паабяцаў у хуткім часе разгарнуць сапраўдную герылью.

З лютага 1945-га ў Берліне пачала працаваць радыёстанцыя Werwolf, якая намагалася ўзняць аўдыторыю на супраціў. «Толькі шляхам няспынных баёў мы можам даказаць ворагу, што бессэнсоўна спрабаваць гадамі ўтрымліваць нас за кошт акупацыйнай арміі», — вяшчаў дыктар. Паводле гісторыкаў, такі мазахісцкі пафас не столькі мабілізоўваў, колькі палохаў падлеткаў.

Адначасова была актывавана агентура Werwolf у тыле ворага. У Ахене яе чальцы дапамаглі падрыхтаваць аперацыю, якая лічыцца самай паспяховай у гісторыі карычневага падполля. 25 сакавіка 1945 года быў забіты мясцовы бургамістр Франц Апенхоф, якога амерыканцы прызначылі кіраўніком вызваленага ад гітлераўцаў горада. Сапраўды, гэты тэракт меў грамадскі рэзананс і напалохаў тых немцаў, якія прыхільна ставіліся да супрацоўніцтва з тымі ж амерыканцамі.

**Ва ўмовах кадравага голаду саюзнікам (прынамсі, на Захадзе) давялося прыцягваць на службу былых нацыстаў, якія цураліся кантактаў з падполлем. Фліртавалі з ветэранамі Рэйху і на Усходзе**

Але поспех у Ахене развіць не атрымалася. У красавіку Чырвоная Армія пачала штурм Берліна. У выніку баёў 23 красавіка станцыя Werwolf спыніла працу. А 21 траўня ў палоне наклаў на сябе рукі Ганс Прутцман — непасрэдны стваральнік структуры. Па сутнасці, асяродкі карычневага падполля згубілі агульную каардынацыю і пачалі дзейнічаць аўтаномна, у рамках асабістай ініцыятывы. Адначасова брэнд Werwolf пачаў выкарыстоўваць любы, незадаволены новымі парадкамі. Напрыклад, ва Усходняй Германіі апазіцыйныя маладыя сацыял-дэмакраты дасылалі жонкам камуністаў лісты з пагрозамі за подпісам Werwolf.

Акрамя тых лістоў падпольшчыкі займаліся агітацыяй, акцыямі сабатажу або спробамі атруціць жаўнераў. Найбольш небяспечнымі былі замахі на адзінокія патрулі або функцыянераў акупацыйных адміністрацый. Таксама час ад часу падкладаліся бомбы і міны. У чэрвені 1946-га выбухнула бомба ўнутры берлінскай мэрыі, забіўшы і параніўшы 16 чалавек. Напэўна, гэта апошняя буйная акцыя, ахвярамі якой агулам сталі каля тысячы чалавек. Апошнія вылазкі Werwolf датуюцца 1948 годам. На гэты час ужо было цяжка сказаць, дзе мяжа паміж падполлем і нейкай формай моладзевай субкультуры.

Тое, што нацысцкае падполле адносна хутка сканала, гісторыкі тлумачаць шэрагам прычынаў. Немцы ў масе сваёй былі стомленыя вайной, і менш за ўсё цікавіліся неанацысцкімі авантурамі. Акрамя таго, акупацыйныя ўлады намагаліся як мага хутчэй ствараць грамадзянскую адміністрацыю і паліцыю, якая непасрэдна займалася палітычным крыміналам. Быў яшчэ адзін чыннік правалу Werwolf. Ва ўмовах кадравага голаду саюзнікам (прынамсі, на Захадзе) давялося прыцягваць на службу былых нацыстаў, якія дзеля кар'еры цураліся кантактаў з падполлем. Некаторыя аўтары сцвярджаюць, што ЦРУ завербавала нават сяброў Werwolf. Фліртавалі з ветэранамі Рэйху і на Усходзе, дазволіўшы ім ствараць асобную партыю.

Хаця былі месцы, дзе нацысцкае падполле атрымала пасля траўня 1945-га другое дыханне. Гаворка пра тэрыторыі з этнічным нямецкім насельніцтвам, якія, паводле Патсдаму, пераходзілі ў склад СССР, Чэхаславакіі або Польшчы. Прымусовая дэпартацыя абарыгенаў лагічна выклікала пратэст, асабліва з боку моладзі. Паводле Wikipedia, савецкая акупацыйная адміністрацыя адправіла за ўдзел у фарміраваннях а-ля Werwolf у працоўныя лагеры СССР каля 10 тысяч нямецкіх падлеткаў. Зрэшты, у заходніх акупацыйных зонах з тынэйджарамі таксама не цырымоніліся. Сёння правая нямецкая прэса носіцца з трагічным выпадкам у гарадку Трэзебург, што ў Саксоніі-Анхальт. Там у красавіку 1945-га пасля нападу невядомых на камендатуру амерыканцы без усялякага следства паставілі да сценкі дзевяць падлеткаў 15–16 гадоў.

Апошні раз падпольшчыкі Гітлера нагадалі пра сябе ў Паўднёвым Тыролі (Італія). Мясцовыя этнічныя немцы, якія ў 50–60-я гады мінулага стагоддзя змагаліся за аўтаномію, часам пускалі ў ход зброю. Ёсць версія, што гэты арсенал яны атрымалі ад былых аўстрыйскіх сяброў Werwolf.

# Мафія бессмяротная!

Алег НОВІКАЎ

**На фоне пандэміі італьянская мафія імкліва стварае інстытуты паралельнай улады.**




Фота www.news.tut.by

Даўно ўжо прайшлі часы, калі падчас трансляцый серыялу пра прыгоды камісара Катаніі вуліцы рабіліся бязлюднымі. І не толькі таму, што няма больш рэжысёраў, здольных рабіць якасныя стужкі пра мафіёзі. Словазлучэнне «італьянская мафія» ў нейкі час перастала выклікаць асацыяцыю са структурай, якую ніяк нельга перамагчы.

Па-сутнасці, мафія не змагла вярнуць сабе той уплыў, які мела напярэдадні славутай аперацыі «Чыстыя рукі» (па-італьянску — Mani pulite), беспрэцэдэнтнага комплексу паліцэйскіх мерапрыемстваў і судовых працэсаў у Італіі 1992–1993 гадоў, накіраваных супраць уплыву арганізаванай злачыннасці на праваахоўныя органы і палітыкум. Як вынік — пра італьянскую мафію апошнім часам у прэсе пісалі хіба што ў кантэксце забастовак смеццяроў у Неапалі. Праз прафсаюзы супрацоўнікаў гэтай сферы неапалітанская Камора, як лічыцца, чыніць ціск на адміністрацыю.

І вось цяпер пра мафію зноў кажуць як пра сур'ёзны выклік Італіі. Усё дзякуючы каронавірусу, які прымусіў італьянскі ўрад абвясціць яшчэ 9 сакавіка жорсткі рэжым каранціну, што неўзабаве выклікала матэрыяльныя праблемы ў шматлікіх сем'ях, чальцы якіх страцілі працу. Нагадаем, што ўзровень беспрацоўя на Апенінах вясной перакрочыў рысу ў 20 працэнтаў ад усяго працоўнага насельніцтва. Сюды можна смела дадаць і тры працэнты італьянцаў, якія працуюць у нефармальным сектары.

Не дзіўна, што ўжо напрыканцы сакавіка муніцыпалітэты на італьянскім Поўдні (найбольш эканамічна слабы рэгіён) пачалі казаць пра магчымыя бунты. Так, у Палерма ў мясцовай інтэрнэт-прасторы нават узнікла ініцыятыва атакаваць у час Х нейкі супермаркет. Ідэю «лайкнулі» 600 чалавек. Спатрэбілася папярэджанне сілавікоў, каб запланаваную атаку скасавалі.

У пачатку красавіка італьянскаму ўраду была прадстаўлена справаздача сакрэтнай службы. Яе аўтары пісалі пра «патэнцыйную небяспеку паўстанняў і бунтаў — як спантанных, так і арганізаваных». Асабліва небяспечная сітуацыя, як сцвярджалася ў рапарце, склалася ў рэгіёнах, дзе падпольная эканоміка і прысутнасць арганізаванай злачыннасці з'яўляюцца асноўнымі фактарамі рызыкі.

Аднак «хросныя бацькі» вырашылі пайсці іншым, негвалтоўным, шляхам. Грамадзянскія актывісты Італіі кажуць пра спробу мафіі заручыцца падтрымкай насельніцтва за кошт стварэння структур падтрымкі гэтага самага насельніцтва. Ахвярам негатыўных сацыяльных наступстваў эпідэміі раздаюць прадукты, пэўныя грашовыя сродкі і гэтак далей.

Падобная філантропія вельмі непакоіць італьянскую дзяржаўную адміністрацыю. Калі верыць галоўнаму пракурору, які звярнуў увагу на апісаную з'яву, з часам бенефіцыяраў гэтай дапамогі мафіёзі будуць прасіць аказаць нейкія паслугі. У выніку мафія атрымлівае пароль для ўваходу ў легальную гаспадарку, мясцовую ўладу, што дазволіць браць пад кантроль рэсурсы грамадства і пераразмяркоўваць іх. Перш за ўсё, крымінал будзе імкнуцца прыцягнуць супрацоўнікаў з эканамічнай і адміністрацыйнай сфераў, каб мець уплыў на тых, хто кантралюе магчымасці працаўладкавання.

**Мафія спрабуе заручыцца падтрымкай насельніцтва за кошт стварэння структур падтрымкі гэтага самага насельніцтва. Ахвярам негатыўных сацыяльных наступстваў эпідэміі раздаюць прадукты, пэўныя грашовыя сродкі і гэтак далей**

У падобных разліках эксперты абапіраюцца на вопыт 2008 года, калі Італія перажывала шок ад глабальнага фінансавага крызісу. Падчас крызісу многія малыя і сярэднія прадпрыемствы трапілі ў сетку мафіёзных арганізацый. У гэты перыяд было нескладана падкупіць прадпрымальнікаў ці папросту браць пад дах бізнес у абмен на грошы і эканамічную абарону.

Цяперашні італьянскі ўрад Джузэпе Контэ прыняў выклік мафіі. Ужо выдаткавана 400 мільёнаў еўра на харчовую дапамогу і 4,3 мільярда еўра для муніцыпалітэтаў, каб яны маглі праводзіць акцыі салідарнасці. Стартавала праграма арганізацыі часовай працы. «Паміж дзяржавай і мафіяй пачалася гонка на час. Калі ўрад не паспяшаецца, прадпрымальнікам паспеюць прыставіць нож да горла», — кажа адзін са спецыялістаў.

Аднак вынік гэтай гонкі цяжка прагназаваць з-за хаосу, які выклікала ва ўрадавых кабінетах эпідэмія. На рашучасць кабміна ўплывае і крытыка правай апазіцыі, якая набірае пункты.

Стаўка ў спаборніцтве ўлады і мафіі незвычайна высокая. Як піша французская прэса, «анансаваныя Рымам і Еўрасаюзам праграмы фінансавай дапамогі ахвярам крызісу ствараюць рызыкі, калі мафія праз падкантрольныя бізнес-кампаніі атрымае велізарныя грошы». У перспектыве гэта дазволіць сіндыкатам аднавіць былы маштаб уплыву як мінімум у Паўднёвай Італіі.

Калі мафіёзныя кланы здолеюць дарвацца да еўрапейскіх фондаў, яны могуць нават прапанаваць бедным італьянцам сваю альтэрнатыўную мадэль сацыяльнай дзяржавы. Мафія ўжо дапамагае сем'ям, у якіх ёсць арыштаваны муж або сын. У перспектыве за кошт фінансавай дапамогі мафія можа пашырыць маштаб сацыяльнай падтрымкі, дзякуючы ліквіднасці, якую забяспечвае незаконны абарот наркотыкаў. «Мафія хутка можа стаць альтэрнатывай дзяржаве», — каментуе цяперашні трэнд Клаудыё Фава, кіраўнік камісіі па барацьбе з мафіяй на Сіцыліі.

Падаецца, часы камісара Катані вяртаюцца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Эмамалі Рахмон



Кіраўнік Таджыкістана пачаў незвычайную рэформу. Ніжняя палата парламента краіны прыняла папраўкі да закона «Аб дзяржаўнай рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану», якія забараняюць выкарыстоўваць імя па бацьку і рускія суфіксы ў прозвішчах. Пад забарону патрапілі суфіксы «ов», «ова», «ев», «ева».

Цікава, што раней праз такую працэдуру прайшоў уласна сам гарант. Яшчэ ў 2007 годзе на традыцыйнай сустрэчы з прадстаўнікамі інтэлігенцыі тады яшчэ Рахмонаў абвясціў аб рашэнні называць сябе Рахмон. Як заявіў міністр юстыцыі Таджыкістана, дзякуючы новаму закону будуць «адраджацца нацыянальныя імёны».

Між тым, заявам уладаў шмат хто не верыць. Лічыцца, што кіраўніцтва краіны аказалася ў няпростай эканамічнай сітуацыі з-за віруса, і спрабуе прыцягнуць увагу насельніцтва да нечага іншага. Ёсць яшчэ адзін моцны аргумент супраць новага закона. Шмат хто з палітыкаў цюркамоўных постсавецкіх дзяржаў спакойна ставіцца да наяўнасці славянскага суфікса ў сваім прозвішчы. Не пакутуюць ад славянскага суфікса той жа Нурсултан Назарбаеў або Ільхам Аліеў. Ёсць думка, што сыход ад славянскіх прозвішчаў у Таджыкістане быў магчымы 20 гадоў таму, калі трэба было хутка давесці сваю незалежнасць ад метраполіі. Цяпер такі крок не ўспрымаецца ўсур'ёз.

### Ангела Меркель



Упачатку гэтага года амаль усе думалі, што цяперашні чацвёрты тэрмін прэм'ерства канцлера Германіі з 2005 года будзе для яе апошнім. Таксама лічылася, што разам з сыходам Меркель страціць пазіцыі і яе партыя — кансерватыўны Хрысціянска-Дэмакратычны саюз (CDU).

Аднак эпідэмія нечакана ўнесла карэктывы ў гэтыя разлікі. Апошнія апытанні паказваюць, што хрысціянскія дэмакраты змаглі вярнуць сімпатыі грамадзян дзякуючы стратэгіі стрымлівання эпідэміі каронавіруса і дапамогі насельніцтву. Калі ў канцы 2019 года рэйтынг партыі кансерватараў не дацягваў да 30 працэнтаў, то цяпер яе падтрымліваюць прыкладна 40 працэнтаў рэспандэнтаў. Рэйтынг Меркель за апошнія месяцы рос яшчэ імклівей, дасягнуўшы ў красавіку 79%. На гэтай хвалі немцы сталі нават падумваць, каб Меркель пайшла на пяты тэрмін.

Праўда, ці захоча застацца палітык ва ўладзе яшчэ на некалькі гадоў — вялікае пытанне. Раней яна сказала: «Чацвёрты тэрмін канцлера — мой апошні. Кажу для пратаколу — я ўвогуле больш не буду займаць пасадаў у палітыцы». Зрэшты, сітуацыя ў свеце такая, што ў Меркель ёсць алібі перагледзець свае абяцанні. Між тым, рэнесанс сімпатый да Меркель агаліў важную праблему: за час яе праўлення вырасла цэлае пакаленне немцаў, у якіх фігура канцлера асацыюецца толькі з Меркель. Гэты комплекс пагражае сур'ёзным крызісам, калі яна сапраўды сыйдзе на пенсію.

### Анатоль Бандарэнка



На думку палітолагаў, мэр украінскага горада Чаркасы з'яўляецца першай ластаўкай новага падвіду папуліcтаў, якія робяць рэйтынгі на тэме каранціну. Усё пачалося з таго, што 30 красавіка бургамістр аслабіў каранцін у Чаркасах, дазволіўшы аднавіць працу прамтаварных крамаў, майстэрняў, цырульняў, салонаў прыгажосці, рынкаў, рэстаранаў, гарадскіх паркаў. Пры гэтым ва Украіне работа ўсіх пералічаных аб'ектаў пакуль забароненая ў рамках каранціну.

Не дзіўна, што Кіеў рэагаваў на навіны з Чаркасаў вельмі агрэсіўна. Прэзідэнт і кіраўнік МУС асабіста пастрашылі Бандарэнку крымінальнай справай, а ў Чаркасах з'явіліся БМП Нацгвардыі. Аднак у выніку ніякіх канкрэтных наступстваў пагрозы не мелі — з-за неверагоднага выбуху папулярнасці мэра. Пунктаў яму дадае і непаслядоўнасць цэнтральных уладаў у барацьбе з вірусам. Уводзячы каранцін для адных, у камандзе Зяленскага дазваляюць працу фірмам і кропкам, якія звязаныя з урадавай партыяй.

Скандал з дэмаршам мэра Чаркасаў яскрава паказаў, што ўплыў Кіева ў рэгіёнах падае. Мясцовыя органы ўлады ўжо не могуць спадзявацца, што цэнтр і далей будзе фінансаваць перыферыю, а гэта нараджае пратэст. Чаркасы, на думку палітолагаў, — толькі пачатак фронды. Відавочна, што падзенне аўтарытэту цэнтра будзе спрыяць росту ўплыву рэгіянальных сіл. У гэтым плане не дзіўна з'яўленне чутак пра тое, што мэры буйных украінскіх гарадоў думаюць стварыць сваю партыю, якая, нібыта, будзе фарміравацца вакол кіеўскага мэра Віталя Клічко.

# «Апошняя надзея»

## Як французскія танкі не ўратавалі Другую Рэч Паспалітую



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Летам 1938 года на вайсковым палігоне «Лясны» пад Баранавічамі адбыліся маштабныя вучэнні польскага войска «Заняткі 32а». Падчас іх польскія пяхотнікі і танкісты 3-га танкавага батальёна практыкавалі наступ пяхотнага батальёна, узмоцненага танкамі, на ўмацаваныя пазіцыі пяхоты. Выбар месца быў невыпадковы: зусім побач знаходзілася савецка-польская мяжа, і «Двуйка» валодала інфармацыяй, што бальшавікі рыхтуюць да будучай вайны значныя танкавыя сілы.**

На гэтых стратэгічных вучэннях прысутнічалі і замежныя вайскоўцы, сярод якіх быў афіцэр танкавых войскаў Французскай Рэспублікі маёр Мішэль Малагуці. Гэтая акалічнасць не была выпадковай: па-першае, Францыя была адным з галоўных вайсковых хаўруснікаў Другой Рэчы Паспалітай, а па-другое, менавіта з берагоў Сены палякі чакалі пастаўкі сучаснай вайсковай тэхнікі — і найперш танкаў.

### Ад крэдыту да справы — шлях далёкі

Яшчэ ў 1935 годзе Варшава ўпершыню загаварыла пра «вытворчасць новых лёгкіх танкаў "Рэно" для Польшчы». 6 верасня 1936 года ў замку Рамбуе пад Парыжам была падпісана польска-французская ўмова аб вылучэнні ўрадам Францыі крэдыту ў 2,6 мільярдаў франкаў для Польшчы на набыццё вайсковай тэхнікі і абсталявання. У сакавіку 1937 года Францыю наведала дэлегацыя польскіх ваенных інжынераў, якая павінна была «паглядзець» новы танк і абмеркаваць магчымасць яго даўзбраення польскай гарматай «Бафорс». На сустрэчы, якая адбылася 11 сакавіка, высветлілася, што вежа французскага танка занадта малая, каб размясціць там польскую гармату. Гэта паменшала польскі энтузіязм.

У адной са справаздачаў, зробленых пасля візіту ў Францыю, адзначалася: «Гэты танк можна выкарыстоўваць толькі для падтрымкі пяхоты. Ён не прыдатны для самастойных дзеянняў. Валодае абмежаванымі магчымасцямі барацьбы з танкавымі сродкамі праціўніка. [...] Аднак для суправаджэння пяхоты — гэта найлепшы танк у свеце». Ужо ў красавіку 1937 года Варшава ўсё ж прыняла рашэнне распачаць ліцэнзійную вытворчасць «Р-35» у Польшчы. Аднак справа не рухалася наперад, бо французы зацягнулі вылучэнне крэдытных сродкаў.

Пазней Польшча пачала звяртаць увагу на французскі танк «Сома S35», аднак французы палякам яго нават не далі агледзець. Урэшце, летам 1938 года Варшава зразумела, што з усяго спектру французскай вайсковай тэхнікі яна можа атрымаць толькі «R-35», пры гэтым абсталяваныя гарматамі ўзору 1918 года, знятымі з «ветэранаў» Першай сусветнай танкаў «FT 17» (пры гэтым для сябе французы на той момант ужо распрацавалі новую паўаўтаматычную 37-міліметровую гармату). Пры гэтым польскія вайскоўцы разумелі, што ва ўмовах новай вайны танк, які не мае добрага супрацьтанкавага ўзбраення, асуджаны на знішчэнне. У гэтай сітуацыі Варшава пачала шукаць іншыя магчымасці: у сакавіку 1939 года палякам удалося дамовіцца на ліцэнзійную вытворчасць чэхаславацкіх сярэдніх танкаў фірмы «Шкода». Але падпісанню кантракту перашкодзіў Вермахт, які 15 сакавіка ўвайшоў у Прагу.



Польскі арол на Холмскіх варотах БК

### Самотны батальён

Ужо 15 чэрвеня 1939 года ваенны аташэ Польшчы ў Парыжы палкоўнік Фыда інфармаваў Варшаву, што «генерал Гамелен (начальнік Генштаба французскага войска. — І.М.) вусна пацвердзіў гатоўнасць перадаць батальён танкаў «R-35» і некалькі «Гочкісаў». У Цэнтральным ваенным архіве Польшчы захоўваецца ліст другога намесніка міністра абароны Польшчы брыгаднага генерала Мацеёўскага на імя брыгаднага генерала Тадэвуша Касакоўскага ад 15 ліпеня 1939 года, у якім, у прыватнасці, адзначалася: «У сувязі з прызначэннем для нас матэрыяльнага крэдыту ў суме 430 мільёнаў французскіх франкаў [...] адзначаю, што пастулатам Галоўнага штабу ёсць набыццё 300 танкаў у прапанаваных французамі партыях (тып "Рэно", "Гочкіс" і адзін узвод "Сома")».

Варшава атрымала батальён французскіх лёгкіх танкаў, якія часткова паходзілі з 503-га танкавага палка французскага войска, а некаторыя машыны толькі сышлі з канвеера. У ліпені 1939 года «Рэно» і некалькі «Гочкісаў» у Дзюнкерку былі пагружаныя на польскі грузавы карабель «Левант». З порта ў Гдыні танкі накіравалі ў Варшаву (у польскай сталіцы пакінулі некалькі машын для вывучэння інжынерамі Войска Польскага. — І.М.). Галоўны штаб Войска Польскага вагаўся над тым, куды накіраваць каштоўны стратэгічны груз. Было прынята рашэнне размясціць «R-35» у Луцку, на тэрыторыі паўднёва-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай.

Відавочна, выклікана гэта было жаданнем азнаёміцца з новай тэхнікай і падрыхтаваць польскіх танкістаў да «працы» на ёй. Пры гэтым, паводле польскага абарончага плану «Захад», тэрыторыі Заходніх Беларусі і Украіны лічыліся тылавымі раёнамі. Чаму новыя танкі не накіравалі, напрыклад, у Брэст, дзе быў танкавы батальён, цяпер сказаць цяжка. Як бы тое ні было, транзітам праз горад на Бугу французскія баявыя машыны 21 ліпеня 1939 года трапілі ў Луцк і былі залічаныя ў склад 12-га польскага танкавага батальёна пад камандаваннем маёра Ежы Луцкага.

Разам з танкамі ў Заходнюю Украіну прыехала і французская вайсковая дэлегацыя ў складзе маёра Мішэля Малагуці, лейтэнанта 507-га танкавага палка Гастона дэ Фрамэна, шэф-ад'ютанта 506-га танкавага палка Андрэ Альбера, ад'ютанта Эспрыт Тусан Куртуа і шэф-сяржанта Станісласа Бярнацкага. Кіраўнік французскай дэлегацыі ўжо згадваўся ў гэтым артыкуле — напярэдадні Другой сусветнай вайны гэты чалавек паспеў наведаць польскія вайсковыя манеўры ў Заходняй Беларусі, пазнаёміўся з польскімі бранятанкавымі сіламі і таму добра падыходзіў як кансультант для польскіх вайскоўцаў. Ужо 31 ліпеня 1939 года пачаліся тэарэтычныя і практычныя заняткі па асваенні новай тэхнікі. Варта адзначыць, што разам з тэхнікай з Францыі быў дастаўлены і боезапас. Так, сярод іншага, «R-35» мелі супрацьтанкавыя снарады ўзору 1935 года, у якіх знаходзіўся літы сталёвы стрыжань.



На вайсковых вучэннях. Бачны прадстаўнік Францыі

### І ўсё ж такі вайна…

Як адзначае польскі даследчык Енджэй Корбал, падчас практычных заняткаў здараліся паломкі тэхнікі. Аднак гэта не спыняла працу па засвойванні палякамі новых танкаў. Тым больш, усе добра разумелі, што вайна вось-вось пачнецца. 22 жніўня 1939 года маёра Мішэля Малагуці тэрмінова адклікалі ў Парыж. 1 верасня Германія напала на Польшчу. У гэты момант польскае камандаванне ліквідавала 12-ты танкавы батальён і на яго базе стварыла 21-шы батальён лёгкіх танкаў (тры ўзводы па 13 танкаў і запасны



Нямецкі танк Т-2. Найбольш распаўсюджаны ў Вераснёўскай кампаніі 1939 года



Танкі «Рэно R-35»



Савецкі танк Т-26

ўзвод, які складаўся з 6 танкаў), а таксама шэраг іншых дробных падраздзяленняў.

Вайсковая частка трапіла ў рэзерв Галоўнага камандуючага і была размешчаная па вёсках вакол Луцка. 11 верасня 1939 года былі выданы загад аб транспарціроўцы французскіх танкаў у Львоў з пазнейшым уключэннем іх у склад 10-й кавалерыйскай брыгады Войска Польскага пад камандаваннем палкоўніка Станіслава Мачка. Не маючы магчымасці пагрузіць танкі на цягнік (не было адпаведных платформаў), французскія танкі паехалі ў Дубна сваім ходам. Там баявыя машыны пагрузілі на чыгуначныя платформы і накіравалі ў Жоўкву. У гэты час жаўнеры палкоўніка Мачка мужна змагаліся супраць немцаў і чакалі падтрымкі.




## Эвакуацыя

«Танкі "R-35" на той момант былі вельмі сучаснымі французскімі машынамі, узброенымі 37-міліметровымі гарматамі. Яны былі павольнымі, але добра браніраванымі і цудоўна рухаліся на поле бою. Батальён складаўся з трох рот, і там было больш за трыццаць танкаў. З такой сілай мы ў попел знішчым праціўніка», — пісаў тады начальнік штаба 10-й брыгады маёр Францішак Скібінскі. Аднак немцы разбамбілі чыгуначныя шляхі ля станцыі Броды, і 15 верасня 1939 года батальён зноў сваім ходам паехаў у Львоў.

Пазней гэтую частку накіравалі ў Станіславаў, куды французскія танкі дабраліся 17 верасня 1939 года. У гэты дзень Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую мяжу. Замест таго, каб ісці на дапамогу Львову, 21-шы танкавы батальён атрымаў загад эвакуявацца ў Румынію ці Венгрыю. 18 верасня французскія танкі былі ў Каламыі, адкуль яны накіраваліся непасрэдна на мяжу.

«На жаль, батальён не адыграў у вайне ніякай ролі. Ён ніводнага разу не пабыў у баі, а загады Галоўнага камандавання, якія накіравалі яго з-пад Львова ў Станіславаў і далей у Румынію, амаль з лініі фронту, напоўнілі сэрца жаўнераў горыччу, незадавальненнем і адсутнасцю веры ў камандаванне», — адзначаў ва ўспамінах маёр Луцкі.

Шэсць танкаў «R-35» працягвалі ахоўваць чыгуначны мост ля Ніжнёва пад Станіславам. Яны атрымалі загад далучыцца да батальёна. Таксама на мяжы засталася група танкаў пад камандаваннем паручніка Марыяна Фіялкоўскага, які з боем супраць прасавецкіх актывістаў прабіўся праз Каламыю па дарозе збіраючы адзінкі Войска Польскага. Ля Снятыня «французы» сустрэлі «амерыканцаў». Польскі ўзвод наткнуўся на перадавое падраздзяленне савецкіх танкістаў, якое складалася з танкаў БТ (мадэль танка распрацаваў амерыканскі інжынер Джон Крысці. — І.М.). Аднак абышлося без бою (савецкія танкі былі ў адлегласці 1,5 кіламетры ад польскіх. — І.М.) і 18 верасня 1939 года чатыры танкі паручніка Фіялкоўскага пераехалі польска-румынскую мяжу. Яшчэ пяць польскіх танкаў «R-35» эвакуяваліся ў Венгрыю.

Усяго ў Румыніі аказалася 34 танкі «R-35» польскага паходжання, якія ў Старажынцы пагрузілі на чыгуначныя платформы і накіравалі ў Таргавішта, дзе знаходзіўся 2-гі танкавы полк румынскіх войскаў. Французскі лейтэнант Фромэ таксама эвакуяваўся ў Румынію. Наступныя некалькі тыдняў ён вучыў румынскіх танкістаў, як карыстацца новай тэхнікай. 4 кастрычніка 1939 года гаспадарамі польскіх танкаў сталі румыны. Пратакол аб іх перадачы ў дэпазіт падпісаў маёр Луцкі.

## Абараніць гонар

Разам з 21-м батальёнам у Луцку фарміравалася танкавая рота пад камандаваннем паручніка Юзафа Якубовіча, якая павінна была стаць асновай для другога батальёна танкаў «R-35», што павінны былі прыбыць у Польшчу праз Румынію ў пачатку вайны (пасля 17 верасня 1939 года транспарт з танкамі, які ішоў у порт Канстанца, быў накіраваны ў Ліван. — І.М.). У склад роты ўваходзілі тры танкі «Гочкіс» і чатыры «Рэно». 17 верасня 1939 года гэтае падраздзяленне накіравалася ў Львоў. Ля мястэчка Краснае польская танкавая калона сутыкнулася з савецкімі танкамі. У выніку — нічыя: бакі страцілі па адной знішчанай машыне. Тады загінуў падхаружы Віталь Петрашэўскі. Танкавая рота паручніка Якубовіча пачала адыход на захад, падчас якога згубіла яшчэ два танкі. Пазней гэтая танкавая група падтрымала пяхоту ў баі супраць нямецкай 44-й пяхотнай дывізіі. Тады палякам удалося ўзяць у палон вялікую колькасць гітлераўцаў. Па сутнасці, у гэтым баі «R-35» паказалі ўсё, на што былі здольныя, і выйшлі з бітвы пераможцамі. Няхуткія машыны далі магчымасць польскай пяхоце падысці да нямецкіх пазіцый і выбіць ворага. Дзеля таго і ствараўся гэты танк.


Савецкі танк БТ, чэрвень 1941 года


Танк «Рэно ФТ-17». Брэст

У наступных баях палякі страцілі яшчэ адзін танк, пры гэтым знішчыўшы адну баявую машыну непрыяцеля. 22 верасня 1939 года танкавая група паручніка Якубоўскага ўступіла ў бой з савецкімі танкамі са складу 36-й танкавай брыгады РСЧА. У ім бальшавікі знішчылі адзін польскі танк. Апошні польскі танк быў знішчаны 24 верасня 1939 года ў чарговым баі супраць бальшавікоў (па адной з версій, быў кінуты без паліва. — І.М.). Пазней танкі Якубоўскага вывучалі савецкія інжынеры ў Кубінцы.

## «Французы» супраць Гудэрыяна

Тады, у верасні 1939 года, шмат залежала нават не ад ведаў стратэгіі і тактыкі, а ад банальнай мужнасці і гераізму. Канешне, батальён танкаў не мог зрабіць карэнны пералом у Вераснёўскай кампаніі 1939 года, аднак выкарыстанне «R-35» як ударнага кулака магло дапамагчы польскім войскам выратаваць палажэнне хаця б на адным з участкаў фронту. Такі прыклад ёсць, і ён таксама звязаны з французскімі танкамі. Гаворка ідзе пра старыя «Рэно ФТ-17», якія, нягледзячы на маральную састарэласць, аказалі супраціў нацыстам падчас абароны Брэсцкай крэпасці ў верасні 1939 года.

На момант нападу Германіі на Польшчу апошняя мела каля 70 такіх машын, і 32 з іх выкарыстоўваліся як баявыя дрызіны. У склад 2-га танкавага батальёна ўваходзілі 111-я, 112-я (камандзір — паручнік Вацлаў Стаклос) і 113-я (камандзір — паручнік Ежы Астроўскі) роты ціхаходных танкаў (па 15–16 машын у роце). У верасні 1939 года першая з іх змагалася пад Лукавам, а дзве другія былі накіраваныя ў Брэст-на-Бугу, дзе ўзмацнілі сілы абаронцаў Брэсцкай крэпасці. 14 верасня 1939 года авангард нямецкага 8-га танкавага палка 10-й танкавай дывізіі пры падтрымцы артылерыйскага агню пайшоў у атаку на абаронцаў Кобрынскага ўмацавання. Немцаў сустрэлі стрэлы польскіх супрацьтанкавых стрэльбаў, а таксама гарматы танкаў 112-й роты. Пасля абеду некалькі дзясяткаў нямецкіх танкаў пайшлі ў атаку, аднак іх сустрэлі танкі «Рэно ФТ-17», якія знаходзіліся на поўначы ад крэпасці.

Па-сутнасці, тут адбылася «Фермапільская бітва», калі адзін бок валодаў сучаснай вайсковай тэхнікай і лічбавай перавагай, а другі — маральна і фізічна састарэлымі баявымі машынамі, але вялікім жаданнем «біць гэтых сучыных сыноў» (так, паводле ўспамінаў польскіх камандзіраў, крычалі беларусы-жаўнеры 20-й пяхотнай дывізіі Войска Польскага, ідучы ў атаку на немцаў у бітве пад Млавай у першыя дні Другой сусветнай вайны. — І.М.). У выніку немцы вымушаны былі адступіць. Аднак 12 польскіх танкаў было знішчана, і 113-я танкавая рота фактычна перастала існаваць.

А калі б замест старых «эфтэшак» насустрач немцам выехалі «R-35»? Апошнія мелі тую ж самую старую гармату, былі не вельмі хуткімі, але мелі браню таўшчынёй у 40 міліметраў — пры тым, што браня найбольш распаўсюджанага тады нямецкага танка PzKpfw II была ўсяго 14,5 міліметра. Тая бітва магла ператварыцца ў збіццё немцаў. Але гонар «Рэно» і польскай зброі давялося абараняць машынам, якія па ўсіх паказчыках саступалі нямецкай танкавай зброі. Разам з гэтым варта адзначыць, што перамогу атрымліваюць не машыны, а людзі. І лакальным пераможцам у тым баі былі мужныя польскія танкісты. Тры машыны, якія засталіся ў складзе 113-й роты, адышлі ў крэпасць.

## Баі ў брамах

Абаронцы Брэсцкай крэпасці выкарысталі «Рэно ФТ-17» у якасці нерухомых агнявых кропак, а таксама заблакавалі імі ўязныя брамы. 16 верасня 1939 года немцы распачалі генеральны штурм, які польскім абаронцам удалося адбіць. Аднак 17 верасня было прынята рашэнне адступаць з крэпасці. Вырвацца з цытадэлі спрабавалі і старыя «Рэно», аднак у Тэрэспалі польскія падраздзяленні трапілі ў нямецкую засаду. Тады, відавочна, акрамя польскіх жаўнераў загінулі і «эфтэшкі».

Пасля адступлення з Брэста камандуючы абаронай Брэсцкай крэпасці брыгадны генерал «доўбарчык» Канстанцін Плісоўскі быў апошнім камандзірам Навагрудскай кавалерыйскай брыгады. Падчас спробы прарвацца ў Венгрыю ён трапіў у бальшавіцкі палон і ўвесну 1940 года быў расстраляны ў будынку ўпраўлення НКУС Харкава. Камандзір польскага 21-га танкавага батальёна, у складзе якога былі навенькія «R-35», маёр Ежы Луцкі эвакуяваўся з жонкай у Румынію, а адтуль — у Парыж. Палкоўнік Мачак аддаў яго пад вайсковы трыбунал, які, аднак, апраўдаў няўдалага танкіста. Французскі маёр Мішэль Малагуці ваяваў у войску Шарля дэ Голя і дaслужыўся да звання генерала.

Сёння ў Брэсцкай крэпасці існуе шмат савецкіх помнікаў. Аднак там варта было б паставіць і адзін несавецкі. Сімвалам мужнай абароны крэпасці польскімі жаўнерамі ў верасні 1939 года (сярод якіх было і шмат беларусаў. — І.М.) мог бы стаць танк «Рэно ФТ-17», які да канца выканаў сваю службу і дапамог абараніць гонар жаўнераў у рагатыўках.

**Фота з уласнага архіва Ігара Мельнікава**

# Мацiяс Гёрыц нарэшце па-беларуску

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Нямецкі паэт, пісьменнік, прафесар літаратуры, арганізатар майстэрні для маладых пісьменнікаў і сучасны дэндзі Мацiяс Гёрыц нарэшце загучаў па-беларуску.**



Першая кніга аўтара па-беларуску з'явілася дзякуючы перакладу Вольгі Гапеевай. Зборнік вершаў «Кароткая гісторыя сэрца» выйшаў у свет у выдавецтве «Галіяфы» ў канцы 2019 года. У зборнік увайшлі вершы розных гадоў, з трох розных кніг: Loops (2001), Pools (2006), Tools (2011).

Інтымная і філасофская паэзія раскрываецца праз прызму вандраванняў і, безумоўна, турботнага кахання — аўтар смела і мудрагелiста вядзе расповед пра пачуцці, паклаўшы сэрца на далонь.




*Часам здаецца, нашаму свету не хапае любові*
*Войны, мастацтва, палітыка, бясконцы*
*працоўны запал*
*І нават гэты верш — усё праз нястачу...*
*[...] У нейкі момант крэветкі мяняюць свой пол.*
*І мне б так. Быць гендарна нейтральным*
*У мове, у целе*
*Скіроўваць жаданне да асобы, да Цябе*
*А не да сацыяльнага канструкту...*

Ці не таму мы так любім паэзію, бо яна абавязкова і так імгненна, адважна апускае нас у чужы свет кахання, інтымнага, прыватнага? А паэты нароўні з кардыёлагамі з'яўляюцца аднымі сапраўднымі знаўцамі чалавечых сэрцаў.

*Доўга чакаў я кахання. І вось яно тут.*
*Пры ім верш з Менску і пяць кветак, што я падарыў...*

Пры гэтым вандраванні і любоў да горада і гарадоў нагогул часта перамагаюць тэму кахання. Бо вандраванні вызваляюць ад зняволення, у тым ліку ад зняволення каханнем. Такім парадкам, паэтам кахання Мацiяса не назваць — ён паэт места перадусім. Ён сам заўважае ў гутарцы, што ў Еўропе з Сярэднявечча места бачыцца як фінальны пункт любога, хто марыць пра вызваленне і ўсёдазволенасць.

Мае першае прачытанне вершаў Мацiяса адразу выклікала вобраз лёзнага паэта, вандроўнага, беглага, свабоднага, чужынца ўсюль, які шукае вызвалення ва ўсё новых і новых гарадах: Парыж, Варшава, Хельсінкі, Любляна, Масква, Нью-Ёрк, Лос-Анджэлес, Кракаў, Чыкага, Стамбул, Франкфурт-на-Майне. Розныя гарады мільгацяць у вершах і ў жыцці паэта часцей за жанчын і амурныя гісторыі.

Мацiяс стварае сапраўдныя паэтычныя гіды-оды розным гарадам, у якіх ён калісьці жыў і куды любіць вяртацца. Пры гэтым места хоць і прапануе цэлую палітру актыўнасцяў, часта робіць чалавека сумным. Пра сум гарадскога чалавека нагадваюць і мае асабліва ўлюбёныя вершы зборніку: «Не распавядай мне нічога» і «Пластыкавы пакет, гнаны ветрам». Дакладна так не вядома, ці сапраўды Любляна з'яўляецца любімым месцам паэта, як на гэта ўказвае назва верша. З вершаваных прызнанняў мне падалося, што аўтар усё ж больш закаханы ў Хельсінкі, і Фінляндыю наогул. Парыж — хоць і «горад метафар», але застаецца «старым і халодным».

А яшчэ ў вершах часцей за людзей паўстаюць жывёлы: сабакі, гругяны і дэльфіны. Абвінавачваць паэта ў мізантропіі не выпадае, але жывёльны свет, хоць і залежны ад чалавека, часта выглядае дабрэйшым і шчаслівейшым. Асабліва яскрава чытаецца гэта ў вершы «Сон дэльфіна».

*Афаліна сніць сны цэлымі днямі.*
*Мора Яна гэта мора.*
*Ніхто не ведае яго так добра.*
*Марскі сон, у гіпнозе адна палова,*
*іншая крычыць, рыпіць,*
*глэмае рыбу, трашчыць,*
*танчыць, сукупляецца,*
*пакуль раптам сон не спыняецца*
*застыглым малюнкам.*

А ў невялічкім цыкле вершаў зборніку, прысвечаным сабакам, — «Гатэлі для сабак» хаваецца і чытаецца ўся высцішнасць і крывадушнасць чалавека, які пакідае на час адпачынку сваіх улюбёнцаў нібыта ў гатэлі, насамрэч — амаль у турме. І зноў жывёла малюецца дабрэйшай, анёлападобнай у процівагу сапраўднаму звераватаму чалавеку.

Акрамя ўласна вершаў зборнік смачна дапоўнены гутаркай «Гатэль са словаў» перакладніцы з паэтам. Сціслая, але ёмістая размова, насамрэч, адказвае на многія пытанні, што паўстаюць падчас чытання зборніку.

Зборнік пераконвае ўсіх, нават самых скептычных і празаічных чытачоў, у важнасці і актуальнасці паэзіі. Вершы з-пад пяра Мацiяса — прыклад паэзіі-гуманізму, паэзіі-вратавання ад самагубства — яго самога неяк выратавалі якраз вершы іншага паэта — Тэда Х'юза. А яшчэ, як дадае сам аўтар у гутарцы, паэзія ратуе ад «празмернага эканамічнага лібералізму». Якраз пэўная ідэалагічнасць яго ных вершаў прывабляе дадаткова, бо лірычны бой, вершаванае супрацьстаянне «дурной фанатычнасці рэлігій ці нацыяналізму» адразу змяшчаюць паэта ў лагер гуманізму і грамадзянскай паэзіі. Не кожны паэт пакідае тэрыторыю чыстай паэзіі і ступае на небяспечную сцежку «тут»:

*Мы ніколі не ведаем дзе мы*
*На лясной сцежцы на зямлі на ветры*
*На малюнку на аркушы паперы*
*«Тут» — смяротнае слова.*

Зрэшты, Мацiяс Гёрыц — не толькі знаны паэт, ён з лёгкасцю пачуваецца з усімі іншымі літаратурнымі формамі: раман, эсэ, сцэнар, п'еса і радыёп'еса. Проза таксама займае важнае месца ў ягонай працы: ён аўтар трох раманаў — «Кароткі сон Якаба Фоса» (2005), Летуценнікі і грэшнікі» (2013) і «Паркер» (2018). Ніводны, на жаль, дасюль не даступны па-беларуску.

Хоць апошнім часам Мацiяс Гёрыц стала жыве ў Сэнт-Луісе і крыху здраджвае сваім паэтычным прароцтвам і марам вечнага вандравання, ён усё яшчэ застаецца лёзным паэтам, калі прыгадаць старабеларускую мову — у сэнсе вольным, не звязаным ніякім цэхам, ані літаратурнай групоўкай.

# БагатаДата

**Быў час, калі парадаў Перамогі не было, а Уладзімір Маякоўскі вучыўся жывапісу ў нашага земляка. Яшчэ больш цікавых і незвычайных фактаў — у традыцыйным аглядзе.**

## 9 траўня

**Дзень Еўропы,** а таксама **Сусветныя дні мігруючых птушак** і **справядлівага гандлю.**

**1945.** У СССР, у тым ліку Беларусі, упершыню адзначаны Дзень Перамогі. Выхадным свята было таксама ў 1946 і 1947 гадах. А затым стала працоўным днём: нібыта Сталіну не давала спакою папулярнасць маршала Жукава. Не праводзілася і ваенных парадаў. Зноў выхадным Дзень Перамогі 9 траўня стаў у 1965 годзе.

## 10 траўня

**1925.** У вёсцы Новая Мільча Гомельскага раёна нарадзіўся салдат Другой сусветнай вайны Віктар Вятошкін, поўны кавалер ордэна Славы. Цікава, што трэці з ордэнаў Славы (1-й ступені) ён атрымаў толькі ў 1970 годзе, калі адзін пісьменнік, працуючы ў ваенных архівах, адшукаў, што мінамётчык з Беларусі за баі ў Германіі быў узнагароджаны гэтым ордэнам, але так і не атрымаў.

## 11 траўня

**1855.** Археолагам, гісторыкам і калекцыянерам Яўстахам Тышкевічам заснаваны Віленскі музей старажытнасцяў. Музейны фонд склалі калекцыі самога Тышкевіча, а таксама тое, што ахвяравалі іншыя мецэнаты. Сярод ахвярадаўцаў былі паэты Уладзіслаў Сыракомля і Францішак Багушэвіч.

## 12 траўня

**Міжнародны дзень медыцынскай сястры.**

## 13 траўня

**1840.** У фальварку Кункулка Лідскага раёна на Гродзеншчыне нарадзіўся Цітус Далеўскі, удзельнік паўстання 1863 года. Аднакласнік паэта Францішка Багушэвіча ў Віленскай гімназіі, найбліжэйшы памочнік Кастуся Каліноўскага. Цітуса Далеўскага арыштавалі на кватэры ўдавы паэта Уладзіслава Сыракомлі, дзецям якой ён выкладаў рускую мову. Ён прыкінуўся студэнтам-рэпэтытарам, але пры вобшуку ў яго дома знайшлі кампраматныя паперы. Далеўскага расстралялі на Лукішскай плошчы ў Вільні 30 снежня 1863 года. Цітус Далеўскі быў сярод тых паўстанцаў, каго ўрачыста перапахавалі восенню мінулага года ў Вільні на могілках Росы.

**1875.** У фальварку Ендрыхаўцы Ваўкавыскага раёна на Гродзеншчыне нарадзіўся жывапісец-пейзажыст Станіслаў Жукоўскі. Быў пастаянным удзельнікам Таварыства перасоўнікаў, меў у Маскве ўласную школу жывапісу. Сярод яго вучняў быў паэт і графік-плакатыст Уладзімір Маякоўскі. У 1920-х пераехаў у Польшчу. Штогод Станіслаў Жукоўскі выязджаў на пленэры на родную Гродзеншчыну. Быў арыштаваны нацыстамі як удзельнік Варшаўскага паўстання. Загінуў у лагеры смерці ўвосень 1944 года, пахаваны ў брацкай магіле.

**1905.** У Мінску нарадзілася легендарная актрыса Купалаўскага тэатра, народная артыстка СССР Стэфанія Станюта. Здымалася і ў кінафільмах: «Пра Чырвоны Каптурок», «Белыя росы», «Людзі на балоце», «Не забудзьцеся выключыць тэлевізар».

## 14 траўня

**1995.** У Беларусі адбыўся першы рэферэндум, у выніку якога бел-чырвона-белы сцяг у якасці дзяржаўнага сімвала быў заменены на чырвона-зялёны, а герб «Пагоня» — на цяперашні «герб з каласкамі». Прычым бел-чырвона-белы сцяг з Дома ўраду ўлады знялі ганебна: кіраўнік справамі прэзідэнта Іван Ціцянкоў публічна разарваў яго і распісаўся на шматках. Апрача таго, руская мова атрымала статус дзяржаўнай, што ў выніку прывяло да згортвання працэсу беларусізацыі, які пачаўся ў пачатку 1990-х гадоў.

## 15 траўня

**Міжнародныя дні клімату і сем'яў.**

**1845.** У фальварку Свольна (цяпер Верхнядзвінскі раён Віцебскай вобласці) нарадзіўся геолаг і географ, даследчык Сібіры Ян Чэрскі. Яго імя носяць горная сістэма ў Якуціі і Магаданскай вобласці, горны хрыбет у Забайкаллі, пасёлак на рацэ Калыма ў Якуціі, найвышэйшая (2763 м) вяршыня Байкальскага хрыбта, станка першабытнага чалавека каля Іркуцка.

**1905.** У газеце «Северо-Западный край» у друку з вершам «Мужык» дэбютаваў класік беларускай літаратуры Янка Купала.

**1990.** Пачаў працу Вярхоўны Савет БССР 12 склікання, які абвясціў незалежнасць Беларусі.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №755

Падпісана да друку 07.05.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.